# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№52
(2506)

26 снежня 1996 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.




*ЭКАНОМІКА: ТЭНДЭНЦЫЯ ДА СТАБІЛІЗАЦЫІ*

## УМЯШАННЕ ДЗЯРЖАВЫ ПАВІННА БЫЦЬ РАЗУМНЫМ

**З ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕРАМ УРАДА БЕЛАРУСІ ВАЛЕРЫЕМ КОКАРАВЫМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ «ІНТЭРФАКСА» УЛАДЗІМІР НАПРЭЕЎ**

***— Валерый Іванавіч! Нядаўна Міністэрства статыстыкі і аналізу канстатавала павелічэнне аб'ёму выпускаемай прадукцыі прамысловасці. Ці сведчыць гэта пра тое, што ў краіне назіраецца тэндэнцыя да стабілізацыі становішча ў прамысловасці?***

— Так, хоць тэмпы росту аб'ёмаў вытворчасці яшчэ далёка не тыя, якія хацелася б мець, але станоўчы вынік у наяўнасці.

Апаненты ўрада выказваюць наконт гэтага іншыя меркаванні. Гавораць, што прырост дасягнуты галоўным чынам у летнія месяцы, калі на вытворчасць не так моцна цісне груз паліўнай састаўляючай. Заяўляюць таксама, што за гэты час мы завінаваціліся расійскаму боку велізарную суму грошай за энерганосьбіты. Сапраўды, указаныя фактары зрабілі ўплыў на сітуацыю. Аднак станоўчыя зрухі адбыліся, у першую чаргу, у выніку ўкаранення новаўвядзенняў у эканоміцы, арыентаваных на тое, каб дапамагчы прадпрыемствам больш эфектыўна адаптавацца да пачатковых рыначных умоў гаспадарання і хутчэй стаць на ногі. На гэта накіраваны шэраг указаў Прэзідэнта рэспублікі, рашэнняў урада.

Але задавальняцца дасягнутым нельга. Трэба рухацца далей больш высокімі тэмпамі. А дасягнуць іх мы зможам толькі ў выпадку рэальнага плаўнага руху наперад па шляху рэфармавання эканомікі краіны.

Для прыкладу прывяду сітуацыю, якая склалася на Мінскім аўтамабільным заводзе. Калі яго прадукцыя цяпер яшчэ карыстаецца попытам на расійскім рынку, то праз два-тры гады нашы аўтамабілі могуць стаць у гэтым рэгіёне неканкурэнтаздольнымі. Значыць, за гэты прамежак часу неабходна правесці рэструктурызацыю прадпрыемства, пры-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ДАНЧЫК У БЕЛАРУСІ!



Гэты факт набыў статус вялікай падзеі ў апошні перадкалядны тыдзень. Адна з рэдкіх у нас добрых вестак апошняга часу. Гродна, Мінск, Полацк, Віцебск — жыхары гэтых гарадоў былі шчаслівыя бачыць і чуць спевака.

Чалавек далікатны, душы настрою тонкага, ён выдатна адчувае мелодыю і слова. Спеў яго чысты абуджае лепшыя пачуцці.

15 снежня Данчык быў гледачом Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч" на спектаклі "Віленскія мроі". Героі гэтага спектакля Юліяна Мэнке і Іван Луцкевіч для Данчыка не так персанажы гісторыі, як блізкія людзі ў літаральным сэнсе. Іван Луцкевіч, выдатны дзеяч нацыянальнага Адраджэння пачатку нашага стагоддзя, — родны брат прабабкі Данчыка, Эміліі Шабуні. Пасля спектакля, які выклікаў авацыю залы, наш госць быў узрушаны. На просьбу публікі ён заспяваў "Зорачкі" Новіка-Пяюна і "Ціхую ноч", калядку, знаную ва ўсім свеце. Гучала яна, натуральна, па-беларуску, але адзін куплет Данчык выканаў па-нямецку, бо спяваў яе ў памяць Юліяны Вітан-Дубейкаўскай з роду Мэнке.

Гэты дзень для Данчыка прайшоў пад знакам Івана Луцкевіча. Пасля спектакля — візіт у Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі на выставу "Спадчына, якая належыць Беларусі". Яна прысвечана асобе І. Луцкевіча і Беларускаму музею імя І. Луцкевіча ў Вільні. І гэта было падобна на сустрэчу з сямейным альбомам ці архівам. Усе экспанаты выставы моцна энергетычна насычаныя. Колькі рук і позіркаў дарагіх нашае гісторыі людзей, якіх асабліва шануюць у сям'і Данчыка, дакраналася да фота і дакументаў, цяпер — гэтых музейных экспанатаў. У музеі Данчык і яго сябры затрымаліся некалькі гадзін. І зноў былі песні. І якія песні!

Дарагі Данчык, наша жывая нацыянальная каштоўнасць, шчасця табе і радасці ў надыходзячым годзе і на ўсё жыццё!

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

**НА ЗДЫМКУ: спявае ДАНЧЫК.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*З НОВЫМ, 1997 ГОДАМ!*

**ДАРАГІЯ СУАЙЧЫННІКІ Ў ДАЛЁКІМ І БЛІЗКІМ ЗАМЕЖЖЫ!**

**Віншуем вас з Ражством Хрыстовым і надыходзячым Новым годам!**

**Дабра і згоды вашым сем'ям, радасці і здароўя, памыснасці ва ўсіх добрых справах.**

**Хай заўсёды саграве вашы сэрцы думка пра тое, што ў вас ёсць Радзіма — Беларусь, якую вы любіце бязмежна.**

**Хай шчасціць вам год 1997!`**

**Таварыства "Радзіма".**
**Рэдакцыя газеты "Голас Радзімы".**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД



17 снежня пачала работу першая сесія парламента — Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Палаты прадстаўнікоў. У ёй прыняў удзел Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. "Людзі чакаюць ад нас дружнай сумеснай работы", — такая галоўная думка прамовы Прэзідэнта, з якой ён выступіў на сесіі Нацыянальнага сходу.

НА ЗДЫМКУ: у прэзідыуме Нацыянальнага сходу — Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль МАЛАФЕЕЎ (злева) і яго намеснік Уладзімір КАНАПЛЁЎ.

РАСІЯ — БЕЛАРУСЬ

### КАМІТЭТ ПА ПАГРАНІЧНЫХ ПЫТАННЯХ

Расія і Беларусь маюць намер стварыць камітэт па пагранічных пытаннях у рамках рэалізацыі Дагавора аб супольнасці дзвюх краін. Аб гэтым паведаміў у сераду "ІНТЭРФАКСУ" дырэктар ФПС РФ Андрэй Нікалаеў.

Паводле яго слоў, рашэнне аб гэтым павінна быць прынята ў сераду на пасяджэнні выканаўчага камітэта супольнасці Расіі і Беларусі.

"Старшынёй камітэта супольнасці па пагранічных пытаннях плануецца назначыць дырэктара ФПС РФ", — сказаў А. Нікалаеў.

*"Я з Прэзідэнтам магу дзяліць толькі адказнасць перад людзьмі, перад народам. З Аляксандрам Рыгоравічам у нас устанавіліся нармальныя дзелавыя адносіны, якія і павінны быць у спікера з кіраўніком дзяржавы. Безумоўна, у яго ёсць на тую ці іншую праблему свой погляд, у мяне адпаведна сваё разуменне, але калі мы сустракаемся, то неяк зближаем свае пункты гледжання і знаходзім залатую сярэдзіну, ці што. Сустракаемся рэгулярна. Магу адназначна сказаць, што той канфрантацыі паміж кіраўнікамі дзвюх галін улады, якую назірала апошнія месяцы ўся краіна, паміж намі не будзе. Хаця магчымыя і прынцыповыя спрэчкі, і дыскусіі, чаго я не выключаю. Гэта нармальная работа".*

*(З інтэрв'ю Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоля МАЛАФЕЕВА "Народнай газеце").*

ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА

### КАЛЯДНЫ ПРЫЁМ

Міністэрства замежных спраў рэспублікі правяло першы калядны консульскі прыём, на які былі запрошаны кіраўнікі консульскіх службаў замежных дзяржаў, прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Кабінета Міністраў.

Вітаючы гасцей, начальнік консульскага ўпраўлення беларускага МЗС Міхаіл Аляксейчык, у прыватнасці, адзначыў, што мінулыя пяць гадоў з'явіліся гадамі станаўлення і развіцця консульскай службы як самастойнага падраздзялення ў сістэме Міністэрства замежных спраў Беларусі. І цяпер консульскія работнікі беларускай дзяржавы працуюць у 28 замежных установах на тэрыторыі 21 дзяржавы свету. Акрамя таго, сёння дыпламаты 30 краін свету прадстаўляюць консульскія службы сваіх дзяржаў у Беларусі.

ЗА ВЫСОКІ ЎЗРОВЕНЬ

### ЕЎРАПЕЙСКІ ПРЫЗ — БЕЛЗНЕШЭКАНОМБАНКУ

Пасяховая міжнародная дзейнасць Белзнешэканомбанка, якi адзначае ў гэтыя дні свой пяцігадовы юбілей, атрымала новае пацвярджэнне. 19 снежня 1996 года ў Брусэлі на прадстаўнічым міжнародным форуме "EuroMarket-1996", у якім прынялі ўдзел звыш 200 афіцыйных дэлегацый, банкіры, дылпамаць, прадпрымальнікі з усяго свету, прэзідэнту банка Генадзю Алейнікаву ўручаны спецыяльны прыз Еўрапейскага цэнтра па вывучэнню рынку "За высокі ўзровень кіраўніцтва ў галіне банкаўскай справы".

Узнагароджанне Белзнешэканомбанка ў сталіцы Еўропы — Брусэлі — пацвердзіла яго вядучую ролю ў фінансавым забеспячэнні эканамічнага супрацоўніцтва нашай краіны з Еўрапейскім саюзам.

РАБУЮЦЬ «ЗОРАК»

### «ПАЧЫСЦІЛІ» МАШЫНУ НАТАЛЛІ ЗВЕРАВАЙ

Начныя грабежнікі не абышлі машыну славутай беларускай тэнісісткі Наталлі Зверавай. Па звестках прэс-службы Мінгарвыканкома, з яе "Мерседэса" ўкрадзены аўтамагнітола, 20 кампактдыскаў і пярэдняя панель. Гэта далёка не першы выпадак, калі аб'ектам грабяжу становяцца беларускія спартсмены першай велічыні.

ПЕРАД СВЯТАМІ



Як звычайна, пра набліжэнне Калядаў і Новага года сведчаць вуліцы нашых гарадоў і магазіны.

НА ЗДЫМКУ: у адным з магазінаў Мінска, тут багата розных цацак і ўпрыгажэнняў на навагоднюю ёлку.

ГАЗАПРАВОД У ЕЎРОПУ

### 50 СТЫКАЎ У СУТКІ

На беларускім участку газапровода Ямал — Заходняя Еўропа (ад горада Нясвіж да мяжы з Польшчай) зварана ў нітку 10 кіламетраў труб. Будаўнікі газапровода ў суткі зварваюць 50 стыкаў труб, што складае 900 метраў. А ў студзені 1997 года плануецца зварыць 60 стыкаў (1 050 метраў).

У снежні будаўнікі газапровода атрымалі ў Германіі ад фірмы "Манесман" 70 кіламетраў труб. Да лютага чакаецца пастаўка яшчэ 140 кіламетраў труб, што поўнасцю забяспечвае патрэбы будаўніцтва ўчастка ў 209 кіламетраў.

Сістэма магістральных газаправодаў Ямал — Заходняя Еўропа, дзве ніткі якой пройдуць праз тэрыторыю Беларусі і Польшчы ў Германію, пасля ўводу ў строй дазволіць у два разы павялічыць транзіт расійскага газу ў Еўропу. Даўжыня кожнай ніткі (дыяметрам 1 400 міліметраў) складзе 575 кіламетраў, агульная прадукцыйнасць пасля ўводу ў строй усіх кампрэсарных станцый — 68 мільярдаў кубаметраў газу ў год.

РОСТ У 3,5 РАЗА



Прадукцыя Брэсцкага завода бытавой хіміі зноў стала карыстацца павышаным попытам. Яна ж і якасная, і танная. Больш за семдзесят назваў яе прапанавана пакупніку. У параўнанні з мінулым годам — рост больш чым у 3,5 раза. Яшчэ адна перавага ў тым, што не выкарыстоўваюцца газы, якія разбураюць азонавы слой.

НА ЗДЫМКУ: з новай прадукцыяй інжынер-тэхнолаг Бажэна ШУГАЙ.

ВЫСТАВА О. РОЙТЭРСВЕРДА



У Доме прыроды, што ў Траецкім прадмесці Мінска, адкрылася выстава работ шведа Оскара Ройтэрсверда "Немагчымыя фігуры. Японскія перспектывы". Як лічыць аўтар, яго работы адлюстроўваюць праблему ілюзіі і рэальнасці, якой ён займаецца ўсё сваё жыццё. Выставу дапамаглі арганізаваць пасольства Швецыі ў Беларусі і беларускі Пэн-цэнтр.

НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця выставы.

ТРАНЗІТ

### ДАРОГІ ПРЫНОСЯЦЬ ДАХОД

Не менш за 200 мільёнаў долараў у год прыносіць Беларусі развіццё міжнародных і транзітных грузавых перавозак па аўтамабільных дарогах і чыгунках.

Растуць і плацяжы за транзіт цераз нашу тэрыторыю замежных транспартных сродкаў: калі ў 1994 годзе яны складалі 17 мільёнаў, у 1995-м — 26,6 мільёна долараў, то ў 1996 годзе чакаецца да 40 мільёнаў долараў.

ГРАНІЦУ НЕ ПРАСКОЧЫШ



Беларускімі пагранічнікамі сумесна з супрацоўнікамі КДБ у раёне чыгуначнай станцыі Маладзечна затрымана група грамадзян Афганістана, Пакістана, Лівана, Лівіі, Самалі, усяго 40 чалавек. Яны спрабавалі незаконна ў грузавым адсеку цеплавоза перасячы дзяржаўную мяжу з Літвой. Далейшы іх шлях павінен быў праходзіць праз літоўска-польскую мяжу і далей у Германію.

Затрыманы арганізатар і пасрэднік па перапраўцы гэтых людзей, грамадзянін В'етнама Чын Гін Лон, па мянушцы Коля. У яго было канфіскавана каля васьмі тысяч долараў ЗША. Усе парушальнікі былі забяспечаны фальшывымі пашпартамі.

НА ЗДЫМКУ: затрыманыя мігранты-парушальнікі.

КАЛІ?

### У МАЗЫРЫ АДКРЫЕЦЦА УНІВЕРСІТЭТ

Міністэрства адукацыі і навукі падтрымала праграму пераходу да універсітэцкай формы падрыхтоўкі спецыялістаў у Мазырскім дзяржаўным педагагічным інстытуце.

Тут ужо адкрыты навукова-даследчы сектар, выдавецкі аддзел, аспірантура, рыхтуецца адкрыццё магістратуры. Паступова інстытут ператвараецца ў сапраўдны навуковы цэнтр Палесся, на базе якога і мяркуецца стварыць дзяржаўны універсітэт.

*БАЦЬКА ЗНАЙШОЎ СЫНА*

# ПЯЦЬДЗЕСЯТ ЧАТЫРЫ ГАДЫ АДЗІНОТЫ

І ўсё ж цуды бываюць. Амаль два гады назад наша газета расказала гісторыю беларуса Васіля Крыушы, які жыў да вайны ў вёсцы Сенькавічы Івацэвіцкага раёна. У 1942 годзе немцы вывезлі яго ў Германію, праз год атрымаў пісьмо з радзімы, у якім чужыя людзі пісалі, што яго сястра і маці загінулі, а брат згубіўся ў нямецкім палоне.

Доўгі час не верылася Васілю, што не засталося ў жывых нікога з блізкіх яму людзей. І толькі многа пазней выпадкова даведаўся ён, што тут, на радзіме, ужо пасля яго ад'езду ў дзяўчыны, разам з якой ён жыў некалькі апошніх гадоў, нарадзіўся сын. Маці, Кацярына, назвала хлопчыка Уладзімірам. Так гэта ці не, а калі хлопчык нарадзіўся, то ці выжыў у цяжкія ваенныя і пасляваенныя гады — Васіль Пятровіч не ведаў, але быў перакананы, што сын у яго ёсць, што ён жывы, і адзінае, пра што марыў, знайсці яго хоць на старасці гадоў.

Пасля вайны Васіль Пятровіч паслаў запыт на адрас сельсавета, але ў той час на пісьмы з-за мяжы, а тым больш з Германіі, адказваць не спяшаліся. Зразумеўшы, што дома яго ніхто не чакае, вырашыў застацца ў Германіі.

Жылося яму там вельмі нясоладка, доўга не мог знайсці работу, давялося змяніць свае славянскія імя і прозвішча на нямецкія Пітэр Хюле. Зразумеўшы, што дамоў ужо не вернецца, купіў тоўстыя агульныя сшыткі і запісаў у іх, каб не забыць, усе вершы, якія помніў. Уразіла, што вясковы хлопец на памяць ведаў дзесяткі вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Адама Міцкевіча. Усе гэтыя гады даставаў, перачытваў, каб не забыць родную мову.

Калі я пасля гасцявання ў Германіі ад'язджала дамоў, Васіль Пятровіч прыехаў развітацца і, ўжо стоячы ля адчыненай дзверцы машыны, сказаў тое, дзеля чаго і прыехаў:

— Знайдзіце майго сына...

Шчыра кажучы, я тады падумала, што ўзрост і доўгія гады жыцця ўдалечыні ад дому прытупілі ў нашага земляка пачуццё рэальнасці. Інакш, як расцаніць просьбу знайсці чалавека, які нарадзіўся (а можа і не?) у 1942 годзе, калі і даросламу выжыць было цяжка. А калі і застаўся ён жывым, ці мала куды мог занесці яго лёс за пяцьдзесят чатыры гады? Але столькі малення і надзеі было ў яго вачах, што я паабяцала зрабіць усё магчымае.

Прыехаўшы ў Мінск, я расказала на старонках "Голасу Радзімы" аб нечаканым знаёмстве, папрасіўшы адгукнуцца ўсіх, каму вядома хоць што-небудзь аб лёсе гэтай сям'і, давала аб'явы ў рэспубліканскіх газетах. Але ні на гэты артыкул, ні на наступныя мае аб'явы ніхто не адгукнуўся. І толькі амаль праз год, за тыдзень да майго новага ад'езду ў Германію, раздаўся тэлефонны званок. Жанчына, якая званіла, сказала, што завуць яе Марыя Крыуша і Васілю Пятровічу — Пітэру Хюле — яна даводзіцца роднай пляменніцай. Аб прапаўшым у час вайны сваяку ў сям'і помнілі, але ў тое, што ён мог застацца жывым, ніхто не верыў. Аказалася, што маці Васіля Пятровіча памерла ўсяго два гады таму назад, жывая яго сястра. Ёсць і іншыя сваякі. Асцярожна, яшчэ не верачы ва ўдачу, спытала пра сына, ці быў ён на самай справе, ці жывы цяпер.

— Сын ёсць, — раздалося ў тэлефоннай трубцы, — і ўсё ў яго ў парадку, толькі жыве ён вельмі далёка адсюль.

Кацярына, маці хлопчыка, захварэўшы на туберкулёз, неўзабаве пасля родаў памерла. Дзіця ўзялі да сябе сваякі, якія яго і выгадавалі. Пасля школы Уладзімір — а так назвалі хлопчыка — скончыў вучылішча, якое рыхтавала шахцёраў, а потым паехаў у Казахстан, дзе па сёння жыве і працуе ў горадзе Шахцінску. Апошнія сумненні развеялі фатаграфіі, якія на граніцы, у Брэсце, у наш аўтобус прынёс пляменнік Хюле Віталь. Строгі, худы твар маці, якую Васіль Пятровіч ніколі не бачыў пастарэлай, надзіва падобныя на яе сястра і сын, і старэнькае, пажаўцелае даваеннае фота, на якім смяецца малады Васіль Пятровіч. І смяяўся б ён тады яшчэ больш, каб сказаў яму хто-небудзь, што праз паўвека ён пад прозвішчам Хюле будзе жыць у нямецкім горадзе Гамбургу.

Гісторыя гэтая вельмі зацікавіла нямецкіх журналістаў, для якіх тэма пакаяння, напэўна, яшчэ многа гадоў будзе ледзь ці не самай галоўнай, і многія нямецкія газеты выйшлі з фатаграфіямі Пітэра Хюле і яго знойдзенай праз пяцьдзесят чатыры гады сям'і.

Нядаўна Васіль Пятровіч пазваніў і расказаў, што іх сустрэча нарэшце адбылася. У гамбургскім аэрапорце ўжо пасівелыя бацька і сын, якія ні разу да гэтага не бачылі адзін аднаго, узіраліся ў натоўп, трымаючы перад сабою загадзя падрыхтаваныя кардонкі са сваім славянскім прозвішчам. Цэлы месяц на нямецкай зямлі гэтыя два беларусы, аднаго з якіх лёс закінуў у Шахцінск, а другога — у Гамбург, бацька і сын, знаёміліся адзін з адным, расказвалі, як жылі паасобку ўсе гэтыя гады... Пазваніўшы следам за бацькам, Уладзімір расказаў, што, ужо расстаючыся, Васіль Пятровіч доўга глядзеў на яго, а потым сказаў: "Нават цяпер, калі ты побач, я ўсё роўна не магу паверыць, што ў мяне ёсць сын..."

Мінулыя з часу вайны гады зрабілі такія сустрэчы ўжо амаль немагчымымі, і ўсё-такі яна адбылася, неверагодным чынам злучыўшы праз пяцьдзесят чатыры гады два чалавечыя лёсы. І нельга не сказаць, што адбылося гэта дзякуючы нашай газеце, таму што менавіта з "Голасу Радзімы" сваякі Васіля Пятровіча даведаліся, што ён жывы і шукае іх.

Васіль Пятровіч і яго сын Уладзімір па-ранейшаму жывуць у розных краінах, цяпер яны часта звоняць адзін аднаму, іншы раз — і мне. Абодва гавораць, што гэтая сустрэча змяніла іх жыцці, і сёння, ведаючы адзін аб адным, яны адчуваюць сябе менш адзінокімі ў гэтым вялікім свеце...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# УМЯШАННЕ ДЗЯРЖАВЫ ПАВІННА БЫЦЬ РАЗУМНЫМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

цягнуць інвестыцыі, стварыць новыя тэхналогіі і асвоіць выпуск аўтамабіля, які будзе па-сапраўднаму канкурэнтаздольным на рынку. З гэтай мэтай мы пачынаем весці перамовы аб супрацоўніцтве з германскай фірмай "Мейнман". У планах — стварэнне і вытворчасць на базе МАЗа сумеснага аўтамабіля, адаптаванага да ўмоў работы ў рэспубліках СНД. Калі перамовы завершацца паспяхова, то ўжо ў 1998 годзе першыя аўтамабілі сыдуць з канвеера і будуць пастаўлены ў краіны СНД і ў першую чаргу, вядома, у Расію. Прыкладна ў такім напрамку павінны рухацца і іншыя прадпрыемствы. Тады праз два-тры гады мы зможам упэўнена гаварыць не толькі аб стабілізацыі, але і аб устойлівым росце ўзнаўлення.

***— Каб гэтыя планы сталі рэальнасцю, неабходна як мінімум вырашыць такую праблему, як паляпшэнне фінансавага становішча прадпрыемстваў і пераадоленне крызісу неплацяжоў. Якія крокі робіць урад у гэтым напрамку!***

— Гэта праблема характэрная не толькі для Беларусі, але і для іншых дзяржаў Садружнасці. Сапраўды, калі з аплатай паставак у далёкае замежжа справы ў нас нармальныя, то ў адносінах з краінамі СНД крызіс неплацяжоў вельмі моцна цісне на прадпрыемствы. З мэтай вырашэння гэтай праблемы ў рамках Садружнасці ўжо адпрацаваны і выкарыстоўваецца механізм узаемаразлікаў.

У якасці прыкладу прывяду той жа Мінскі аўтазавод, паколькі гэта буйное прадпрыемства з'яўляецца своеасаблівым люстэркам усёй нашай эканомікі. Прыкладна 85—90 працэнтаў сваёй прадукцыі МАЗ цяпер пастаўляе на ўмовах узаемаразлікаў. У выніку прадпрыемства не толькі разлічылася за бягучае спажыванне энергарэсурсаў, але і заплаціла намнога наперад, стварыўшы сабе тым самым пэўныя гарантыі на будучыню.

Зразумела, механізм узаемаразлікаў у эканоміцы не з'яўляецца ў дастатковай меры эфектыўным, але ў якасці пераходнага варыянта ім можна і трэба карыстацца. У перспектыве, безумоўна, неабходна павялічваць скорасць абарачэння капіталаў, зніжаць затратную частку ў вытворчасці прадукцыі. Не выключана, што на макраўзроўні трэба будзе разгледзець пытанне, ці дастаткова грашовай масы знаходзіцца ў абарачэнні, і, пры адмоўным адказе, прадугледзець механізм яе павелічэння, з тым каб яна моцна не паўплывала на інфляцыйныя працэсы. Адным словам, кардынальнае вырашэнне праблемы магчыма толькі з пазіцый нармальнай рыначнай эканомікі.

***— Асабліва ў апошнія гады зіма становіцца для эканомікі рэспублікі ў цэлым і для прамысловасці — у прыватнасці, суровым выпрабаваннем. Паколькі ўжо надышла зіма, ці можна сцвярджаць, што прадпрыемствы гатовы да работы ў гэты перыяд! Перш за ўсё гэта датычыць самога паліўна-энергетычнага комплексу. Як справы з разлікамі за імпартуемыя паліўныя рэсурсы і спажываемую энергію!***

— Запазычанасць рэспублікі за выкарыстаныя энергарэсурсы складае на сённяшні дзень каля 200 мільёнаў долараў ЗША. Я не сказаў бы, што гэтая сума такая вялікая, што можа паралізаваць нармальнае функцыянаванне беларускай эканомікі. У нас ёсць графік пагашэння гэтай запазычанасці, узгоднены з прадпрыемствамі, міністэрствамі і ведамствамі. Упэўнены, што калі не на 100 працэнтаў, то, ва ўсякім разе, у значнай меры мы яго выканаем і частку запазычанасці пагасім. Акрамя таго, трэба ўлічваць, што расійскія суб'екты гаспадарання, у сваю чаргу, вінны нам таксама немалыя грошы. Суму нашай запазычанасці за энергарэсурсы можна супаставіць з гэтым доўгам. Так што пытанне з разлікам цалкам вырашальнае.

Што датычыць запасаў паліва, то яны ў нас створаны амаль на ўзроўні мінулага года. Трывожнай, а ўжо тым больш трагічнай сітуацыі з палівам у рэспубліцы няма.

Запасы, якія мы накапілі ў дзяржаўным рэзерве, поўнасцю забяспечаць нармальнае функцыянаванне ўсёй энергасістэмы, а таксама прамысловых прадпрыемстваў.

У бліжэйшыя два гады ўрад павінен будзе перагледзець прапорцыі спажываемых энергарэсурсаў. Маю на ўвазе нафту і газ. Калі на дадзены момант гэтыя прапорцыі складаюць прыкладна пяцьдзесят на пяцьдзесят, то з уводам у эксплуатацыю трансантынентальнага газаправода Ямал — Заходняя Еўропа баланс у бок газу можа істотным чынам зрушыцца. У лічбах гэта азначае: калі штогод рэспубліка спажывала прыкладна 13 мільярдаў кубаметраў газу, то будзе спажываць да 30 мільярдаў кубаметраў. Такая акалічнасць рэзка зменіць усю структуру энергетыкі краіны.

Прэзідэнт А. Лукашэнка разумее важнасць гэтай дзяржаўнай праблемы. Ён удзяляе пільную ўвагу ПЭКу. Рэгулярна наведвае нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы рэспублікі. Пабываў у нафтаздабываючых раёнах Сібіры. Многа было сказана на гэту тэму на вышэйшым узроўні і ў Мінску, і ў Маскве. Мы вельмі блізка падыходзім да прыняцця радыкальных рашэнняў: паколькі ў рэспубліцы будзе дастатковая колькасць газу, то мэтазгодна будзе рэзка знізіць спажыванне нафтапрадуктаў. Для гэтага патрэбна рэканструяваць нафтаперапрацоўчыя заводы і выпускаць больш светлых нафтапрадуктаў, якія можна будзе экспартаваць на Захад, падтрымліваючы тым самым нафтаперапрацоўчую прамысловасць Беларусі.

У сувязі з рэзкім павелічэннем спажывання газу ўжо ў бліжэйшыя два гады трэба будзе інтэнсіўна заняцца газіфікацыяй прамысловых прадпрыемстваў. Калі ўлічыць, што ў параўнанні з топачным мазутам газ з'яўляецца больш танным, экалагічна чыстым відам паліва, якое пастаўляецца стабільна, робіцца зразумелым, чаму вырашэнне гэтага пытання не церпіць адкладу. Таму ў хуткім часе ва ўрадзе будзе разгледжана праграма канкрэтных мераў па рэалізацыі стратэгіі развіцця энергетыкі ў нашай рэспубліцы.

***— Вырашэнне праблем, якія стаяць перад прамысловасцю Беларусі, патрабуе немалых інвестыцый. Урад ужо вызначыў адрасы і крыніцы першачарговых укладанняў капіталу!***

— Для таго каб прыцягнуць інвестыцыі, трэба стварыць умовы для іх прыцягнення. Загадамі ў гэтай справе нічога не даб'ешся. Калі будуць створаны ўмовы, інвестар сам стане больш актыўна шукаць аб'екты ўкладання сродкаў. Сказанае зусім не азначае, што тут не патрэбна пэўная сістэма. У рэспубліцы існуе праграма прыярытэтных напрамкаў для ўкладання інвестыцый. Дзейнічае таксама ўказ Прэзідэнта аб прыцягненні інвестыцый у новыя тэхналогіі і прадастаўленне пад гэта значных ільгот. Як паказвае практыка, інвестыцыі, асабліва прыватныя, ідуць пераважна ў тыя вытворчасці, якія маюць недзяржаўную форму ўласнасці. Заўважу: урад актыўна стварае асяроддзе і для прыцягнення замежных інвестыцый на прадпрыемствы з дзяржаўнай формай уласнасці. Праект з аўтамабільнай карпарацыяй "Форд" — наглядны таму прыклад.

У рэалізацыі вядомага праекта ў Мазыры ўдзельнічаюць акцыянернае таварыства "Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод" і расійская кампанія "Слаўнафта". Ператварэнне прадпрыемства ў акцыянернае таварыства з кантрольным пакетам акцый у руках дзяржавы прадугледжваецца і пры рэалізацыі праекта ў Наваполацку з удзелам аб'яднання "Нафтан", і такіх прыкладаў даволі многа.

Пры гэтым не трэба лічыць, што акцыяніраванне — гэта панацэя ад усіх бед. Акцыяніраванне — усяго толькі адзін шанц з тысячы, магчыма, для таго каб выкарыстаць патэнцыяльныя магчымасці прадпрыемства і пераканаць інвестараў у тым, што грошы трэба ўкладваць менавіта сюды з мэтай атрымання высокай эфектыўнасці і прыбытковасці. Гэты шанц трэба выкарыстаць спраўна. Характэрны прыклад — Гомельскае вытворчае аб'яднанне "Карал", якое выпускае кінескопы. На сённяшні дзень яно з'яўляецца фактычна банкрутам. У выніку перамоў з амерыканскай фірмай "Уэстрэй" дасягнута дамоўленасць, што "Карал" будзе рэарганізаваны ў акцыянернае таварыства, куды амерыканскі бок гатовы інвесціраваць 24 мільёны долараў для вытворчасці канкурэнтаздольных кінескопаў як для беларускай тэлевізійнай прамысловасці, так і для продажу за межы рэспублікі.

***— Прыватызацыя ў рэспубліцы ідзе не такімі хуткімі тэмпамі, як у іншых рэспубліках СНД. Ці чакаюцца кардынальныя змены ў гэтай галіне!***

— Калі прыватызацыя ў Беларусі толькі пачыналася, я лічыў, што яе трэба правесці ў максімальна кароткія тэрміны. Аднак жыццё паказала, што многія калектывы да гэтага аказаліся негатовымі. Для паспяховага руху наперад неабходна рэалізаваць схему, калі можна так сказаць, "паўзучай" прыватызацыі з паэтапным паскарэннем. Калі пойдзем па гэтаму шляху, зможам дасягнуць па-сапраўднаму вялікіх вынікаў.

Возьмем буйныя прадпрыемствы. Каб змяніць іх форму ўласнасці, неабходна стварыць адпаведную інфраструктуру, якая ўключае ўсе элементы для эфектыўнай работы ў рыначных умовах. А для гэтага патрэбны час. Неабходна таксама правесці рэструктурызацыю прадпрыемстваў, але не проста механічна кагосьці раз'ядноўваць, а кагосьці аб'ядноўваць, а рабіць гэта па пэўных мерках, як таго патрабуе сітуацыя. У кожным канкрэтным выпадку неабходна складаць уласную схему рэструктурызацыі і акцыяніравання прадпрыемстваў. Так робіцца ва ўсім свеце. Нельга ўсё падганяць пад адзін шаблон. Нічога з гэтага не выйдзе. Таму прыватызацыя можа быць эфектыўнай толькі тады, калі ўсё будзе старанна прадумана і ўзважана, а ўжо потым зроблены крокі да акцыяніравання прадпрыемства і прыцягнення інвестыцый.

***— Рэфармаванне эканомікі не з'яўляецца "аднаразовай" акцыяй. Таму ўмяшанне дзяржавы ў прамысловы сектар, відаць, будзе ажыццяўляцца не адзін год. У сувязі з гэтым якой вам бачыцца аптымальная мадэль такога "дзяржумяшання"!***

— Ніхто не будзе адмаўляць, што ў эканоміцы любой, нават самай развітой краіны бываюць сітуацыі, калі дзяржава абавязана рэгуляваць той ці іншы працэс. У нашым становішчы, на пераходным этапе, умяшанне дзяржавы павінна быць самым актыўным. Яно можа выявіцца ў тым, што дзяржава стварае калідор для манеўру суб'ектаў гаспадарання, у якім яны самі выбралі б рэжым работы. Прадпрыемствы могуць добраахвотна захаваць дзяржаўную форму ўласнасці, іншым не будзе дадзена права на акцыяніраванне ў інтарэсах дзяржавы. Аднак большасць суб'ектаў гаспадарання ўсё ж зменяць форму ўласнасці, рухаючыся ў межах, вызначаных урадам.

Калі дзяржава, назіраючы за працэсамі, якія адбываюцца на макраўзроўні, пераканаецца, што рух робіцца па-сапраўднаму дынамічным, яна можа ўнесці карэктывы ва ўмовы калідора, як таго патрабуюць час і вопыт. Пры гэтым умяшанне дзяржавы павінна быць настолькі разумным, каб максімальна садзейнічаць эфектыўнай дзейнасці суб'ектаў і выпуску канкурэнтаздольнай прадукцыі, якая карыстаецца попытам на рынку. Толькі так можна паспяхова рухацца наперад.

## У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»





У Беларускім таварыстве "Радзіма" прайшлі курсы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці, прадстаўнікоў беларускай дыяспары з Масквы, Польшчы, Латвіі і Эстоніі. Курсы праходзілі ў Інстытуце праблем культуры, дзе на працягу 10 дзён госці слухалі лекцыі па традыцыйнай беларускай культуры, развіццю фальклорных традыцый у мастацтве, вучыліся арганізацыі работы з фальклорнымі калектывамі.

Заняткі праводзілі загадчык кафедры беларусазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута праблем культуры Іван Крук, выкладчык прыватнага інстытута сучасных ведаў Уладзімір Раговіч, навуковы супрацоўнік Вольга Мірончак.

Акрамя заняткаў у інстытуце, курсанты пабывалі ў выдатных прафесійных калектывах, што ўзбагаціла іх духоўна. Яны мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з сучасным мастацтвам беларускага народа. Адбылася сустрэча з кіраўніком Акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча М. Дрынеўскім, які пазнаёміў з рэпертуарам калектыву. Сустракаліся госці з удзельнікамі Дзяржаўнага народнага ансамбля музыкі "Свята" і балетмайстрам дзіцячага фальклорнага ансамбля "Дударыкі" М. Котавым.

У таварыстве "Радзіма" для гасцей быў наладжаны прыём. Намеснік старшыні таварыства "Радзіма" У. Мялешка пазнаёміў іх з задачамі таварыства, разам абмеркавалі праблемы, што хвалююць грамадскія арганізацыі суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны. Мастацкім калектывам не хапае рэпертуарных зборнікаў, нацыянальных касцюмаў, аўдыа-і відэазапісаў беларускіх фальклорных калектываў. Наколькі можа, таварыства стараецца аказваць ім дапамогу.

Зінаіда Клыга, прадстаўнік Беларускага эстонскага згуртавання (БЭЗ), расказала пра работу, якую яны праводзяць у Эстоніі, сказала, што сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай культуры — заўсёды вялікая радасць не толькі для беларусаў, але і для іншых груп рускамоўнага насельніцтва. Яна расказала, што аб'яднанне БЭЗ выдала зборнік вершаў беларускага паэта ў Эстоніі Уладзіміра Дзехцярука. На шчасце, дзейнасць БЭЗ знаходзіць падтрымку ў дзяржаўных і мясцовых органах улады Эстоніі.

У апошні дзень працы курсаў адбыўся канцэрт, у час якога ўдзельнікі іх паказалі, чаму яны навучыліся. Аб тым, што курсы дапамогуць у рабоце самадзейных калектываў за мяжой, гаварыла Валянціна Марціновіч з Польшчы.

"Дзякуй Богу і вам, добрыя людзі,— сказала З. Клыга, — за ўвагу да зарубежных суайчыннікаў. Спадзяемся, што тое, што нам далі тут, дапаможа ў далейшым адчуваць сябе неадрэзаным кавалкам і рабіць сваю справу па аб'яднанню эстонскіх беларусаў".

Ніна Грыгарук падзякавала за ўсё добрае, што ім падаравалі: вучобу, сувеніры, спатканні з людзьмі высокага ўзроўню.

**Алена КАЗЛОВА,**
**Яўген ХАРЭЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: сустрэча ў таварыстве "Радзіма"; каля Інстытута праблем культуры.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

---

## У СУПОЛКАХ БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА

# ТРЭБА ПРАЦАВАЦЬ РАЗАМ

*Роўна два гады таму мы ўжо пісалі аб ініцыятыве Ніны Савінавай стварыць у Таліне Беларускі культурны цэнтр "Бацькаўшчына". Тады ў снежні 1994 года рабіліся толькі першыя крокі. Пры падтрымцы Міністэрстваў культуры Эстоніі і Беларусі, прадпрымальнікаў была арганізавана святочная імпрэза "Спатканне", у якой бралі ўдзел каля тысячы чалавек — прадстаўнікі суполак, нацменшасцяў у Эстоніі, госці з Беларусі і, канечне, эстонскія беларусы. Сустрэча мела на мэце сабраць і аб'яднаць як мага болей зацікаўленых людзей для сумеснай працы і супрацоўніцтва на карысць беларускай справы. Для грамадскай арганізацыі два гады працы — тэрмін вызначальны. Менавіта таму, калі я нядаўна прыехала ў Эстонію, каб прыняць удзел у форуме грамадскіх арганізацый краін Балтыі, я не магла не скарыстаць нагоды сустрэцца з Нінай Савінавай і паразмаўляць аб дзейнасці эстонскай "Бацькаўшчыны".*

— Вы ведаеце, як з'явілася ідэя стварэння Беларускага культурнага цэнтра "Бацькаўшчына". Мне вельмі хацелася, каб эстонскія беларусы мелі свой куточак, куды б яны мелі магчымасць прыйсці і сутыкнуцца з нацыянальнай культурай, роднай мовай. Праблема самавызначэння сябе як нацыі вельмі актуальная для эстонскіх беларусаў, таксама як і ў самой Беларусі ды іншых краінах СНД, дзе жывуць нашы суайчыннікі. Шчыра кажучы, я вельмі ўдзячная Эстоніі, што яна прымусіла мяне па-іншаму глянуць на некаторыя рэчы, разбудзіла ў мяне любоў і адначасова тугу па маёй бацькаўшчыне, імкненне нешта зрабіць на яе карысць. Гэта я хацела данесці і да іншых беларусаў, якія тут жывуць. Мы распрацавалі анкеты і даслалі іх розным людзям, каб даведацца, хто яны, беларусы Эстоніі. Потым запрасілі іх на першае свята "Спатканне", дзе было шмат гасцей. Яно сапраўды атрымалася. Гэта была першая спроба прадэманстраваць, што ёсць у Эстоніі сапраўдныя беларусы, існуе беларуская культура і ёсць у свеце дзяржава Беларусь.

**— Аднак пасля свята заўсёды прыходзіць звычайная будзённая праца.**

— Так. Потым пачалася, так бы мовіць, "папяровая" праца: напісаць статут, зарэгістраваць, адкрыць рахунак. Далей паўстала пытанне будынка. Відавочна, калі няма сталага месца для сустрэч і працы, вынікаў ніякіх не будзе. Утрымліваць будынак — патрэбны вялікія грошы. Раней я працавала ў "Славянскім вянку", і там мяне добра ведаюць. Таму, калі я звярнулася да іх, яны пайшлі насустрач і выдзелілі "Бацькаўшчыне" пару пакояў у будынку Рускага культурнага цэнтра. Усё гэта разам заняло паўгода, пасля чаго пачалася ўжо больш-менш наладжаная праца.

Тыя пытанні, якія мы ставілі на пачатку дзейнасці: вывучаць свае карані, культуру, мову, паступова пачынаюць ажыццяўляцца. Галоўнае, чаго мы дамагліся, гэта тое, што ў Эстоніі нас ужо ведаюць, да нас добра ставяцца, запрашаюць да супрацоўніцтва.

**— Не маглі б вы спыніцца больш падрабязна, што "Бацькаўшчына" зрабіла і што плануе зрабіць.**

— Па-першае, свята "Спатканне" ўжо стала традыцыйным. Кожны раз яно збірае шмат гасцей як з Эстоніі, так і з Беларусі. Хутка адбудзецца чарговае, на якое мы чакаем калектыў "Шматгалоссе", а ў сакавіку абяцалі прыехаць "Песняры". Мы бралі ўдзел у фестывалі нацменшасцяў "Ліра-96". У Старым горадзе мы зрабілі "беларускае падвор'е», дзе гучалі беларускія песні, была наладжана выстава, эстонцы і іншыя маглі пачаставацца стравамі беларускай кухні. Дагэтуль яго вельмі цёпла згадваюць.

Былі і больш істотныя справы. Мы адкрылі нядзельную школку. Пакуль вельмі маленькую. Яе наведвае 12 хлопчыкаў і дзяўчынак. Дзеці будуць вывучаць беларускую культуру, традыцыі, гісторыю, займацца прыкладным мастацтвам. Наладзіць гэта вельмі цяжка: мы не маем ні падручнікаў, ні іншых беларускіх кніжак, ні адпаведных кадраў. Пакуль важна захаваць цікавасць да бацькаўшчыны як у дзяцей, так і іх бацькоў, якія і самі не надта ведаюць свае вытокі. Больш таго, сёння вострая праблема — працяг навучання дзяцей беларусаў, якія скончылі сярэднюю школу. Многія маюць намер атрымаць вышэйшую адукацыю ў ВНУ Беларусі. Па гэтаму пытанню я ездзіла ў Мінск, вяла перамовы з кіраўнікамі некаторых беларускіх вядучых вышэйшых навучальных устаноў. Даведалася толькі, што існуюць квотныя месцы, але не атрымала ніякага пэўнага адказу аб іх выкарыстанні. Таму пры "Бацькаўшчыне" мы стварылі структуру, якая будзе займацца менавіта прапрацоўкай пытання навучання моладзі на міждзяржаўным узроўні.

І, нарэшце, самае вострае пытанне — гэта праблема інфармацыі і інфармацыйнага абмену. Пакуль што тут існуе моцная блакада. Мы не ведаем дакладна, што адбываецца ў Беларусі, а вы амаль нічога не ведаеце пра нас. Так, мы атрымліваем дыпламатычную пошту, але адной крыніцы недастаткова. На дзяржаўным эстонскім радыё мы маем гадзіну вяшчання — кожны панядзелак. Так здарылася, што "Бацькаўшчына" мусіла ўзяць яе пад сваю апеку. Тут я напрамую сутыкнулася з праблемай. Я не кажу ўжо пра палітычную і экалагічную інфармацыю, аднак няма магчымасці асвятляць сённяшнія культурныя падзеі, праблемы адукацыі, нават спорт. Больш таго, нашы рэсурсы і сродкі вельмі абмежаваныя.

**— Мне здаецца, гэтую праблему магчыма вырашыць, дамовіўшыся з беларускімі журналістамі.**

— Мы цікавімся гэтым пытаннем і нават з некаторых крыніц нешта атрымліваем, але недастаткова. Зараз у нас ёсць яшчэ задума пачаць друкаваць беларускую старонку. Пэўна, газету мы не выцягнем. Але ў Эстоніі выходзіць руская газета, якую чытае шмат беларусаў, і яны ўзрадуюцца, калі там знойдзецца месца для навін з Беларусі. Там будуць і матэрыялы, якія бацькі змогуць чытаць разам з дзецьмі, а таксама будуць выкарыстоўвацца ў нядзельнай школе з мэтай вывучэння беларускай мовы. Калі нехта захоча з намі супрацоўнічаць у Беларусі, мы, вядома, будзем толькі ўдзячныя.

**— Усё, што вы пералічылі, вельмі істотна і важна. Але вымагае значных сродкаў. На чые грошы вы існуеце!**

— Я ўдзячная эстонскаму Міністэрству культуры за яго фінансавую і маральную падтрымку. Яшчэ не было ніводнага пытання, з якім я звярнулася б да міністэрства Эстоніі, а яно б не адгукнулася. Але мы атрымліваем грошы толькі пад пэўныя праекты, якія падаюцца мэтазгоднымі і маюць вартасць. У Эстоніі таксама становішча пакуль вельмі складанае. Усе астатнія грошы я здабываю з іншых крыніц, бо даўно ўжо зразумела, што без грошай культуры быць не можа. Я далучыла да справы бізнесменаў. 9 чалавек уваходзіць у аргкамітэт. Кожны адказвае за свой накірунак. У нас няма фіксаванага сяброўства. Кожны можа прыйсці да нас. Я ніколі не думала, што мне прыйдзецца прымаць па 20—30 чалавек на дзень. Людзі прыходзяць са сваімі праблемамі: адны не маюць грошай на помнік мужу ці бацьку, іншыя не маюць магчымасці перадаць грошы сваякам у Беларусі: дзяржаўныя сувязі не наладжаны. Некаму проста не хапае сродкаў на жыццё. Мы наладзілі бясплатныя абеды для мнагадзетных сем'яў і пенсіянераў.

**— Ну, а як вам дапамагае Беларуская дзяржава!**

— Амаль ніяк. Ад яе я не атрымала пакуль ніводнага "зайца". Нават, калі мяне запрашаюць у Беларусь, усе выдаткі я аплачваю сама. Але я прабачаю сваёй "маці", бо я ведаю, як ёй цяжка.

**— А як ладзіцца супрацоўніцтва з іншымі беларускімі суполкамі!**

— Я разумею, як наладзіць сустрэчы, абмен інфармацыяй. Аднак мне лягчэй пакуль дамовіцца з небеларускімі суполкамі. Сярод беларусаў добра наладжана праца яшчэ толькі ў суполцы БЭЗ з Йхве. Усе астатнія хутчэй імітуюць дзейнасць, аднак не ідуць на супрацоўніцтва. Шкада, бо іх веданне беларускай мовы (і не толькі) магло б быць вельмі карысным. Ва ўкраінцаў, рускіх, казахаў — ва ўсіх нас агульныя сацыяльныя пытанні. Мы падпісалі міжсупольнае пагадненне і вырашылі заснаваць Цэнтр дзелавога супрацоўніцтва. Пакуль дзяржавы не падпісалі адпаведных пагадненняў, мы будзем шукаць і ўсталёўваць стасункі з нашымі метраполіямі на грамадскім узроўні. І я перакананая, што гэта дасць свой плён. І ўжо дае. Летась мы наладзілі адпачынак у Эстоніі 15 беларускіх дзяцей з розных абласцей і яшчэ 20 дзяцей сумесна з адным чарнобыльскім фондам з Беларусі пры падтрымцы эстонскага дзіцячага фонду. Я прывозіла беларускім дзецям падарункі ў дзіцячыя дамы ў Мінск. Гэта не адзіны прыклад. У нас ёсць магчымасці, і мы можам працаваць. Трэба вучыцца працаваць цывілізавана і рухацца наперад. Мы ўжо прайшлі праз жорны і добра ведаем, што ўсё залежыць толькі ад нас. Гэта цяжкая штодзённая праца, і ёй трэба вучыцца. Я жадаю ўсім беларусам поспеху і плёну ў пераадоленні праблем і перашкод. Мы таксама працуем на карысць Беларусі, маем пэўны вопыт, і ён можа быць карысны вам. Давайце працаваць разам.

**Гутарыла Таіса БАНДАРЭНКА.**

НАВУКОВА-ПЕДАГАГІЧНАЯ СПАДЧЫНА СЯРГЕЯ ПАЎЛОВІЧА

# КАБ ЖЫЦЬ ПАД СВАІМ НЕБАМ

У 1936 годзе з'явілася самая арыгінальная праца Сяргея Паўловіча — буквар "Першыя зярняткі" (у 1937 годзе лацінкай — "Засеўкі"). Усе 137 малюнкаў на старонках буквара выкананы з вялікай любоўю і добрым веданнем прыроды, укладу жыцця беларускіх сялян. Аб гэтым парупіліся мастакі Язэп Драздовіч, Мікола Васілеўскі, Уладзіслаў Паўлюкоўскі. Раздзел "Беларусь і беларусы", які ішоў адразу за азбукай, адкрываўся палескім краявідам Язэпа Драздовіча і такімі вершаванымі радкамі Алеся Гаруна:

**Мілая, родная старонка-маці!**
**Моцна цябе я і шчыра люблю, —**
**Бедныя ніўкі твае, сенажаці**
**І нешчаслівую долю тваю.**

Паэт і публіцыст Францішак Грышкевіч даў някепскую рэцэнзію на кнігу. У ёй адзначалася, што буквар меў народны ці сялянскі характар, дзе каларытна паказаны побыт людзей, багатая гісторыка-культурная спадчына, прырода. Уся прагрэсіўная заходнебеларуская грамадскасць прыхільна прыняла буквар. Яго наклад хутка разышоўся па ўсім краі. Вучыліся па ім пераважна дома. Вялікая папулярнасць кнігі напалохала польскія ўлады. У 1937 годзе яе другое выданне было канфіскавана.

Пацiху розныя палітычныя сілы Заходняй Беларусі пачалі ўсведамляць рэальную пагрозу татальнай паланізацыі. Такое разуменне паспрыяла наладжванню ТБШ і БІГіК (Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры) сумеснай школьнай акцыі ў 1936 годзе. Менавіта ў гэты час ажывілася дзейнасць ТБШ. Сяргей Паўловіч быў выбраны ў новы склад яго галоўнай управы. Адрозненне поглядаў не перашкодзіла правядзенню шэрагу культурных мерапрыемстваў. Так, 13 снежня 1936 года адбыўся Дзень беларускай культуры, які быў прымеркаваны да многіх угодкаў — 15-годдзя ТБШ, 10-годдзя БІГіК і іншых. Акрамя Сяргея Паўловіча, у святочны арганізацыйны камітэт уваходзілі таксама такія вядомыя прадстаўнікі заходнебеларускай інтэлігенцыі, як Адам Станкевіч, Янка Пазьняк, Янка Шутовіч, Максім Танк, Міхась Машара, Рыгор Шырма, Пётра Сергіевіч і іншыя.

Абуджэнне нацыянальных сіл зноў змянілася наступам паланізатараў. У канцы 1936 года была забаронена дзейнасць ТБШ і БІГіК. Знішчаліся рэшткі беларускай асветы. Калі ў снежні 1936 года ў краі яшчэ існавалі 8 беларускіх пачатковых, 14 польска-беларускіх, 43 польскія школы, дзе выкладалі беларускую мову, то ў наступным навучальным годзе беларускіх школ, акрамя Віленскай гімназіі, ужо не было, польска-беларускіх — 5, у 44 польскіх яшчэ вывучалі беларускую мову. У адным з цыркуляраў уладных структур падкрэслівалася, што "адпаведная кніжка, адмыслова падабраная навуковым кіраўніком, з'яўляецца найлепшым інструментам для селяніна, а таксама для ўкаранення прапольскіх ідэй у душу беларускага дзіцяці".

У такіх абставінах Сяргей Паўловіч адзіным магчымым і даступным сродкам асветы лічыў хатняе навучанне, самаадукацыю. "...Беларусы, калі яны хочуць быць будаўнікамі свайго жыцця, хочуць шырока карыстацца ўсімі здабыткамі культуры і заняць "пачэсны пасад між народамі", павінны штораз болей і болей выяўляць творчай працы, самаўсведамлення і зацікаўленасці ўсім, што робіцца на шырокім свеце, а перадусім ў сваёй хаце. Да гэтага ёсць толькі адзін шлях — асвета". У першую чаргу ён лічыў патрэбным кінуць лепшыя інтэлектуальныя сілы на дзялянку кнігадрукавання. А для гэтага зноў неабходна было, на яго думку, больш цеснае яднанне, адвага і самаахвярнасць, бо "інакш ніколі не пабудаваць нам Дому беларускай культуры". Кампанія па збору сродкаў на будаўніцтва ў Вільні Дому беларускай культуры, які мог стаць рэзідэнцыяй шматлікіх нацыянальных арганізацый, ішла з пераменным поспехам яшчэ з канца 1928 года.

Ва ўяўленні педагога хатняе навучанне — набыццё пачатковых навыкаў чытання, пісьма, лічэння, а самаадукацыя — гэта далейшае авалодванне ведамі і самаўсведамленне — нацыянальнае, культурнае, эканамічнае, палітычнае. Пачатковая грамата — гэта толькі крок да самаўдасканалення. "За першым, так важным высілкам вучняў, трэба пачынаць далейшую работу над фармаваннем іх духовага "Я", над іх усведамленнем у шырокім значэнні гэтага слова".

У працэсе самаадукацыі асноўным ён лічыў самастойную працу навучэнца. Настаўнік (яго ролю мог выконваць любы адукаваны чалавек на вёсцы ці інтэлігент) павінен толькі кіраваць ёю, дапамагаць, папраўляць, а асноўны цяжар лажыўся на самога вучня.

Барацьба з непісьменнасцю, за школу на роднай мове ў многім нагадвала змаганне біблейскіх сіл дабра і ліха. Як ніколі патрэбна было роднае слова для дзяцей. Таму з мая 1937 года Сяргей Паўловіч пачаў рэдагаваць дзіцячы царкоўны, культурна-асветніцкі, ілюстраваны часопіс "Снапок", які выдаваўся ў Варшаве. Усяго выйшла 10 нумароў часопіса. Аднак кожны з іх змяшчаў даволі цікавыя матэрыялы. Чытачоў знаёмілі са святамі — Вялікаднем, Сёмухай, Раством Хрыстовым і іншымі. Дзеці мелі магчымасць пачытаць пра многія культурныя здабыткі, знакамітых асветнікаў — віленскіх пакутнікаў Іаана, Антонія, Яўстахія (№ 1), пачынальнікаў пісьменства святых Кірылу і Мяфодзія (№ 3), полацкую ігуменню святую Ефрасінню (№ 6), Каложскую (Барысаглебскую) царкву ў Гародні (№№ 7—8). Аўтарам большасці гэтых артыкулаў быў сам рэдактар. Знаёмілі дзяцей таксама і з асобнымі каштоўнасцямі сусветнай культуры. У некалькіх нумарах друкавалася "падарожжа" ў дзівосную краіну Абісінію (Эфіопію).

Часопіс быў своеасаблівым дзіцячым календаром прыроды. На кожны месяц юныя чытачы атрымлівалі заданні — назіраць за навакольнай прыродай. У змешчаных апісаннях прыроды была закладзена глыбокая філасофская ісціна. Гэтак, як уся прырода імкнулася да абуджэння ў час вясны, "гэтак жывуць пад небам, гэтак змагаюцца за жыццё вольнае і культурнае, гэтак чакаюць свае "вясны" і цэлыя народы". Да такіх народаў Сяргей Паўловіч адносіў і беларусаў. Час адраджэння, паводле яго слоў, павінен абавязкова наступіць. Толькі для гэтага патрэбна яго набліжаць.

На старонках "Снапка" можна было прачытаць шмат вершаў, жартаў, прыказак, прымавак, загадак, скорагаворак, напамінаў. Часопіс даволі хутка набыў папулярнасць.

У цэлым творчая спадчына Сяргея Паўловіча сапраўды багатая. Некаторыя з яго работ не былі надрукаваны. Ім была падрыхтавана асобная праца аб гісторыі змагання за нацыянальную школу ў Заходняй Беларусі. У яго было шмат дакументальных сведчанняў аб дзейнасці ТБШ. Аднак хвароба сэрца перарвала ў 1940 годзе творчыя планы і само жыццё Сяргея Паўловіча. Пахавалі яго на Ліпоўскіх могілках у Вільні.

Ацэньваючы зробленае гэтым чалавекам, трэба прызнаць яго значны ўклад у развіццё педагагічнай навукі Беларусі. Самаадданая праца, шматлікія вучэбныя і навукова-метадычныя работы сапраўднага Асветніка Сяргея Канстанцінавіча Паўловіча сталі асновай і крыніцай для пошукаў наступных пакаленняў даследчыкаў і настаўнікаў.

**Аляксандр ВАБІШЧЭВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**старшы выкладчык Брэсцкага**
**дзяржаўнага універсітэта.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 51.**

НАШЫ СВЯТЫНІ





**Кобрынскі Свята-Аляксандраўскі сабор пабудаваны ў 1868 годзе на месцы пахавання салдат, што загінулі ў Айчынную вайну 1812 года. Цяпер ён перажывае другое нараджэнне. Яму надаецца першасны выгляд, страчаны ў час многіх войнаў, што прайшлі па гэтых мясцінах. Вялікую дапамогу ў аднаўленні праваслаўнай святыні аказваюць веруючыя, калектывы прадпрыемстваў і арганізацый, ваеннаслужачыя.**

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае цяпер галоўны купал сабора, распісаны ўмелымі майстрамі з Украіны; Свята-Аляксандраўскі сабор вабіць у любую пару года.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

*ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ*

# СПАДЗЯЮСЯ!

**Нядаўна ў рэдакцыю прыйшло з Малдовы пісьмо ад Панковай Аляксандры Цімафееўны, 1933 года нараджэння, якая нарадзілася ў сяле Салабута Кармянскага раёна Гомельскай вобласці. У пісьме наша зямлячка просіць з увагай паставіцца да яе просьбы і апублікаваць ліст на старонках "Голасу Радзімы".**

З 1943 года я шукаю сваіх малодшых братоў. У той час старэйшаму было 6 гадоў, звалі яго Лёня, ці Лявон, а малодшаму — 3 гады. Здарылася гэта восенню 1943 года. У нашай вёсцы гаспадарылі немцы. Мне было тады 9 гадоў, і я сёе-тое помню па расказах іншых, сёе-тое помню сама. У вёсцы засталіся толькі старыя і дзеці, а ўсе дарослыя былі ў лесе і ў балотах, таму што чуткі ішлі, што немцы будуць вывозіць у Германію. Мы жылі з бабуляй. Немцы хадзілі па дамах, білі свіней, курэй і бралі, што пакінулі жыхары. Іграла музыка, і п'яныя немцы спявалі, гергеталі па-свойму. Аднойчы ноччу пачаўся страшны бой. Гарэлі дамы, ляцелі нейкія вогненныя бочкі, было так светла, што рабілася балюча вачам. Мы пабеглі і схаваліся ў бліндаж, выкапаны яшчэ ў пачатку вайны. Сядзелі і чулі, як крычалі рускія салдаты, бабуля выбегла і, плачучы, гаварыла: "Сыночкі, што нам рабіць?" Яны адказалі: "Ідзіце за намі". А самі хутчэй бягуць, выканалі сваё заданне: узялі немца ў споднім, нейкія скруткі, пасадзілі немца ў матацыкл і паехалі. Гэта былі партызаны з лесу. Раніцай немец і перакладчык увайшлі ў дом. Мы пахаваліся за сундук і пад ложак, а бабуля стаяла каля печы. Яны яе штурхнулі, яна ўпала. Мы павылазілі, і нас усіх пагналі, у чым мы былі. Гналі ўсіх сельскіх, хто трапляўся, у асноўным бабулі і дзеці. Сагналі ўсіх у адзін дом, паставілі варту і, як заложнікаў, хацелі спаліць.

Не помню, колькі нас там трымалі, галодных, выпускалі адзін раз у дзень на двор на 10 мінут, потым заганялі назад. Дом не ацяпляўся, але было душна і смуродна. Старэйшы брат Віктар прыпоўз ноччу ўзяць хлеба, яго злавілі немцы і кінулі да нас. Аднойчы ноччу загарэўся дом насупраць таго, дзе мы сядзелі. Дах быў зламаны, і іскры ляцелі на нас. Людзі сталі выбіваць вокны, і некаторыя ўцяклі, а многіх застрэлілі, а нас зноў зачынілі ў гэтым доме і ўзмацнілі варту. Нам стала яшчэ горш. Дзьмуў у вокны моцны вецер з дажджом, і мы сядзелі на скразняку. Усе плакалі ад холаду і голаду. Не помню, колькі нас так мучылі. Потым у гэты дом прыйшлі маладыя муж з жонкай. Яны ўмелі гаварыць па-нямецку і сталі размаўляць з аховай, прасілі, каб немцы не палілі дзяцей, таму што дзеці ні ў чым невінаватыя. Гэтых мужа і жонку выпусцілі, і яны варылі бульбу і прыносілі, і кожнаму трапляла па некалькі бульбін. Праз некалькі дзён нас пагналі на шасейную дарогу. Маці ішлі побач са сваімі дзецьмі і гаварылі, што паміраць будуць разам. У нас мамы не было, яна памерла ў пачатку вайны. У нас была мачаха, звалі яе Дар'я. Яна таксама далучылася да нас, але ўзяла старэйшага брата Віктара, ён вёў карову, а нас чацвёра кінула. Мы ішлі з нашымі сельскімі жанчынамі. Адну звалі Макрыда Мельнікава, а другую Аксінка. Дагналі нас да Доўска, потым пачалі сарціраваць па ўзросту: падлеткаў, мужчын і жанчын у адзін бок, а старых і маленькіх у другі. Везлі нас у вагонах на кароўім гноі і прывезлі да Баранавіч, там каля шашы быў фашысцкі лагер, вельмі вялікі, абнесены калючым дротам. Былі там драўляныя баракі. Нас загналі ў той лагер і давалі кавалачак хлеба (бохан дзялілі на 10 чалавек) на цэлы дзень. І яшчэ помню: стаяла вялікая чарга за баландой. Я падлазіла пад дрот і хадзіла праз дарогу ад лагера, прасіла ў старых, што жылі там, кавалачак хлеба ці варанай бульбы. Вярталася і карміла сваіх меншых сястру і братоў. Мы ўсе хварэлі, кашлялі. А Лёня і Пеця захварэлі так моцна, што ўсе ночы плакалі. У Лёні нарывала ножка каля костачкі ўнізе, а Пеця, прастудзіўшыся моцна, кашляў і плакаў. Немец з аховы з перакладчыкам загадалі нам з сястрой аднесці іх у бальніцу — хлеў з драўлянымі яруснымі нарамі ў гэтым жа лагеры. Мы з сястрой хадзілі іх наведваць, яны вельмі плакалі і прасіліся назад. Яны ляжалі на сырой саломе галодныя. Помню словы Лёні: "Шурачка, вазьмі нас назад, нам з табой было добра". Я гэтыя словы ўжо многа гадоў помню і плачу, і цяпер пішу і плачу. Праз дзень мы пайшлі з сястрой, а іх ужо не было. Я пачала плакаць, і жанчыны, якія там працавалі, сказалі, што іх павезлі ў бальніцу, а як вылечаць, то ў дзіцячы дом. Гэтыя словы мне помняцца ўсе гады, і я ўвесь час плачу, усё думаю, што яны недзе жывыя. Лёня быў разумны хлопчык. Ведаў сваё прозвішча — Панкоў Лявон Цімафеевіч. Многа ведаў вершыкаў. Усё расказваў: "У Савосева суседа быў пярэсценькі каток, выхаванец дзеда Паўла, такі слаўны пестунок". Пеця быў маленькі, я сама яго дрэнна помню. Потым нас пагналі яшчэ ў лагер Лясное, нібыта там станцыя была. Там ужо давалі хлеба цэлы бохан на дзень. Але мы былі толькі з сястрой Нінай. І мы ўсё плакалі і гаварылі: вось калі б быў Лёня і Пеця, у нас цяпер многа хлеба. Нават кашу давалі грэцкую несоленую. Потым быў бой, і нас вызвалілі савецкія войскі і павезлі некуды ў вялікі дом каля Слоніма. Там мы жылі, я пасвіла кароў, а сястра хварэла, я яе карміла. Потым мы вярнуліся з нашымі сельскімі жанчынамі дамоў. Ехалі на грузавых машынах, адпачывалі ў вёсках. Мы былі вельмі слабыя, хворыя, усе кашлялі. І нас у беларускіх вёсках кармілі і лячылі.

Дарагія землякі-беларусы! Можа хто помніць гэтыя лагеры, гэтае страшнае жыццё ў такія дзіцячыя гады, адгукніцеся. Напішыце па адрасу: **Малдова, Кішынёў, п. В.-Водэ, вул. Лучафэрул, д. 23. Касіравай-Панковай Аляксандры Цімафееўне.**

Я буду вельмі рада, а можа і сустрэнемся.

Дарагая рэдакцыя газеты "Голас Радзімы"! Я малю змясціць маё пісьмо ў газеце. Я ўсё шукаю братоў і, пакуль буду жывая, буду шукаць. Пасля вайны я звярталася безвынікова ў Маскву ў Чырвоны Крыж. Шукала на Беларусі. Пісала гэтай вясной у Германію. Прыйшоў адказ з анкетамі, каб я запоўніла на нямецкай мове і назад адправіла, тады будзе далейшы пошук. Я гэта зрабіла і чакаю.

Пра газету "Голас Радзімы" я даведалася ў Беларускім пасольстве, дзе далі ваш адрас.

**З глыбокай павагай і просьбай**
**ПАНКОВА.**

**Малдова.**

# «СПАДЧЫНА, ЯКАЯ НАЛЕЖЫЦЬ БЕЛАРУСІ»

## З ВЫСТАВЫ Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МУЗЕІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

Сёлета вясною споўнілася 115 год з дня нараджэння чалавека, чыім імем трэба называць лепшыя вуліцы і плошчы нашых гарадоў. Сёлета ўвосень споўнілася 75 год музею, які насіў імя гэтага чалавека. У лістападзе споўнілася 90 год слыннай беларускай газеце, ля вытокаў каторай ён стаяў. Адна з найяскравейшых і ахвярных асобаў беларускага нацыянальнага Адраджэння пачатку XX стагоддзя, выдатны палітык і дзеяч культуры, вучоны і заўзяты антыквар — Іван Луцкевіч (1881—1919), пра ягоную асобу ідзе гаворка. Афіцыйны друк і электронныя СМІ цалкам праігнаравалі гэтыя падзеі. Але грамадскасць аддала належнае згаданым датам. У траўні ў Доме літаратара адбылася вечарына з нагоды нараджэння Івана Луцкевіча, летам у выдавецтве "Тэхналогія" выйшла кніга "Мае ўспаміны" Юліяны Вітан-Дубейкаўскай, успаміны пра Івана Луцкевіча; у кастрычніку Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч" паказаў прэм'еру — спектакль "Віленскія мроі", паводле гэтых успамінаў у бліскучым выкананні актрысы Галіны Дзягілевай, а ў лістападзе Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі адкрыў выставу "Спадчына, якая належыць Беларусі", цалкам пабудаваную на аўтэнтычных, арыгінальных матэрыялах, якія маюць дачыненне да асобы Івана Луцкевіча і Беларускага музея яго імя ў Вільні. Пра выставу варта сказаць асобна.

Прысвечаная яна менавіта дзвюм датам: 115-годдзю з дня нараджэння І. Луцкевіча і 75-годдзю з часу адкрыцця Беларускага музея ў Вільні. Экспанаты для выставы сабраныя з розных сховішчаў — Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальнага мастацкага музея, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Літаратурнага музея Янкі Купалы.

Нешчаслівы лёс Віленскага музея. Адкрыты руплівасцю Антона Луцкевіча, брата Івана, у 1921 годзе, стаўшыся сапраўдным цэнтрам культурнага і навуковага жыцця беларусаў у міжваеннай Польшчы, перажыўшы нямецкую акупацыю, ён быў зліквідаваны ў 1944—1945 гадах. Яго калекцыі былі падзелены паміж Літвой і БССР. Члены ліквідацыйнай камісіі з літоўскага боку былі людзьмі дасведчанымі, яны ведалі, што забіраюць і чаго гэта вартае. Выпадковым і абыякавым людзям з БССР засталіся рэшткі бясцэнных калекцый.

Пра музей і абставіны яго знішчэння падрабязна напісаў апошні яго дырэктар, спадар Янка Шутовіч, чые ўспаміны змешчаны ў часопісе "Спадчына" № 1 за 1995 год. Імёны стваральнікаў і руплівцаў Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні вельмі доўгі час у нашай краіне нават не ўспаміналіся.

І вось выстава, годная, прафесійная, вобразная, вельмі інфарматыўная і нават нечаканая. Аўтары яе ў сваім аповядзе вядуць паралель: лёс чалавека — лёс музея. Першае, што бачыш, уваходзячы ў залу, — вобраз разбуранага музея: голыя кніжныя паліцы, у бязладдзі рамы без карцін, пустая скрыня ад экспанатаў; на палосках тканіны, як на парваных ветразях, сплывае ў неба Вільня... І на ўсё гэта пазірае з партрэта гаспадар забраных скарбаў — Іван Луцкевіч. Такую інсталяцыю зрабіў мастак. На выставе шмат фотаздымкаў: твары знаёмыя — Н. Арсеннева, У. Самойла, Ф. Аляхновіч, А. Луцкевіч, М. Танк, Р. Шырма... Але яшчэ больш твараў незнаёмых — настаўнікі і вучні беларускіх школ і гімназій, на занятках, на экскурсіях, навуковыя канферэнцыі...



У віленскім музеі была багатая сфрагістычная калекцыя. На выставе — яе невялікая частка: пярсцёнкі з сігнетамі полацкіх князёў XII стагоддзя; сігнеты і пячаткі шляхты XVIII—XIX стагоддзяў. Але што зусім нечакана — урадавыя пячаткі БНР, ні больш, ні менш! Выстава на выставе — збор твораў Язэпа Драздовіча, мастака з Божае ласкі, "вечнага вандроўніка", талент якога быў падтрыманы І. Луцкевічам, "Сялянскія багі" ў драўлянай скульптуры і на абразах — гэта таксама з калекцый таго музея. Тое, пра што спрачаліся савецкія мастацтвазнаўцы ў 70-х — 80-х гадах, ці мастацтвам ёсць некананічныя выявы святых і што пазней зацвердзілася як узор высокамастацкай народнай творчасці, — тое на пачатку стагоддзя для І. Луцкевіча і яго паплечнікаў было бясспрэчнымі творамі мастацтва найвышэйшага ўзору, прычым каштоўнасцямі нацыянальнымі. Пры пошуках прадметаў для выставы быў выяўлены надзвычай рэдкі абраз — Спас Нядраманае вока XVIII стагоддзя (так ён пазначаны ў каталогу). Гэты твор праляжаў незапатрабаваным больш за 50 гадоў. Убачаць наведвальнікі і "маленькі шэдэўр" — драўляную фігурку Хрыста, "Хрыстос перад Пілатам", фота якой вынесена на вокладку пятага нумара сёлетняй "Спадчыны". Па пальцах можна пералічыць творы іканапісу і драўлянай культавай скульптуры, выстаўленыя ў экспазіцыі. У музеі ж Луцкевіча іх былі дзесяткі. Упершыню змешчаныя на выставе матэрыялы Лявона Вітан-Дубейкаўскага, архітэктара і грамадскага дзеяча з беларускага нацыянальнага асяроддзя Вільні. Археалагічныя знаходкі, музычныя інструменты... Рэшткі, аскепкі... На выставе сабраныя разам каля 350 прадметаў з віленскага музея, у той час як яго Інвентарная кніга, апублікаваная летась, называе лічбу блізу 15 тысяч адзінак разам з кніжным зборам.






Што да жыццяпісу І. Луцкевіча, то стваральнікі выставы падалі яго асобнымі старонкамі кнігі жыцця чалавека. Асабістыя рэчы, фота, дакументы — усё арыгіналы, ніякіх копій. Вялікая колькасць эксплікацый і тлумачальных тэкстаў, не замінаючы мастацкім вартасцям экспазіцыі, дапамагаюць кожнаму, хто прыйшоў, зарыентавацца ў малавядомых ці зусім невядомых рэаліях жыцця І. Луцкевіча. Экспанаты наўпрост ці ўскосна паведамляюць, што зусім малады чалавек, вучань гімназіі, задаецца пытаннем, якой жа ён нацыянальнасці, і хутка знаходзіць адказ — ён беларус. Для многіх становіцца адкрыццём, што гэты выдатна адукаваны чалавек, які набываў і ўдасканальваў прафесійныя веды юрыста, археолага і гісторыка ў Пецярбургу, Вене, Варшаве, Львове, адукацыя і арыгінальнасць думкі якога здзіўлялі ўсіх, адмовіўся ад навуковае кар'еры і аддаў свой талент, а зрэшты, і жыццё на рэабілітацыю "мужыцкага народа" — беларусаў, на абуджэнне нацыянальнай годнасці і самапавагі. Свае зборы старасвеччыны і сучасных яму рэчаў, сваю выдавецкую дзейнасць, усе свае чыны ён трактаваў менавіта так — справай нацыянальнага Адраджэння. Дарэчы, гэтае паняцце менавіта ён, Іван Луцкевіч, упершыню ўвёў у навуковы і грамадскі ўжытак. Лідэр па натуры, надзелены ад нараджэння рэдкім дарам арганізатара, ён і ў палітыцы здолеў вывесці беларусаў на міжнародную арэну, стварыўшы першую ў нас палітычную партыю БСГ — Беларускую Сацыялістычную Грамаду. Абвяшчэнне БНР, Першая віленская беларуская гімназія, газета "Наша Ніва" — да ўсяго гэтага І. Луцкевіч меў самае непасрэднае дачыненне.... Дакументы, фота, рукапісы ў вітрынах...

Яшчэ ў студэнцкія гады, адбываючы зняволенне ў "Крестах", знясілены палітычнаю галадоўкай, Луцкевіч захварэў на сухоты. Займацца здароўем, уладкоўваць асабістае жыццё не было часу. На выставе вельмі далікатна і цёпла перказана апошняя старонка жыцця Івана. У ягоным лёсе здарылася вялікае каханне — Юліяна Мэнке, дачка віленскага немца, выпускніца пецярбургскага універсітэта. Гэта не было каханне юных Рамэо і Джульеты, але людзей з пэўным жыццёвым вопытам. Самым шчымлівым было тое, што вельмі набожная жанчына кахала безнадзейна хворага чалавека. Юльяна Мэнке ўспаміналa, што яна і яе сястра Ляля, калі Іван ужо не ўставаў з ложка, знаходзячыся ў санаторыі ў Закапанэ, прынеслі яму букет мечыкаў, улюбёных ягоных кветак. Той букет стаўся апошняй радасцю Івана. І вось на выставе мы бачым букет, светлы, густы, прыгожы, намаляваны на карціне. Мечыкі больш знаёмыя нам пад назваю гладыёлусаў. Карціна з кветкамі, прыкрытая белым празрыстым вэлюмам, прымацаваная нізка над чорным столікам. На ім — фота Івана, Юліяны, Лялі, ліст Антона Луцкевіча з Парыжа да брата, апошні ліст да яго.

І ўвогуле, на выставе ўзнікае ўражанне, быццам жывы чалавек сумовіцца з табою, падтрымлівае, наталяе энергіяй. Але ж узнікаюць і пытанні: ці ўсе матэрыялы разбуранага віленскага музея выяўленыя ў Беларусі, ці ўсе яны навукова апрацаваныя, ці будзе адноўлены тым ці іншым чынам сам музей?.. Аўтары "Спадчыны, якая належыць Беларусі" відавочна ставяць гэтыя пытанні. Што адкажа беларуская грамадскасць і дзяржава? І ў гэтым кантэксце адкрываецца нечаканы сэнс радкоў з верша Надзеі Артымовіч:

**...думаю пра Цябе**
**пытаю як пралажыць сьвежыя вуліцы**
**ў разбураным горадзе**

**плыву над сьляпымі сьметнікамі**
**шукаючы выкінутых з дзесятага**
**паверху**
**акцёрскіх рэквізітаў**

**сьпяваю: глыбока ў зямлі**
**ляжаць першыя і апошнія словы**

Застаецца назваць аўтараў выставы: спадарыні Таццяна Воранава і Ірына Пахоменка, вядучыя навуковыя спецыялісты музея. Мастак — Генадзь Чысты.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

**Здымкі Віктара СТАВЕРА, зробленыя на выставе.**





ФЕСТЫВАЛІ



**Пяць дзён у Віцебску праходзіў IX Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі. У ім прынялі ўдзел творчыя калектывы з Екацярынбурга, Таліна, Пярмі, Масквы, Гродна і іншых гарадоў, а таксама прадстаўнікі далёкага замежжа з кітайскага горада Гуангдонг.**

**Міжнароднае журы, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі Расіі, Францыі, Кітая, Галандыі і Японіі, прысудзіла першую прэмію ў намінацыі "Харэаграфічная мініяцюра" прадстаўнікам Кітайскай Народнай Рэспублікі за мініяцюру "Малітва ў змроку".**

**НА ЗДЫМКУ: адзін з фрагментаў конкурсных выступленняў.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## ДЗЕЯЧЫ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

# КАМПАЗІТАР І ПЕДАГОГ ЭЛЬЗА ЗУБКОВІЧ

У мінулым годзе споўнілася сто гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага кампазітара і педагога Эльзы Зубковіч (Эльзы Рабертаўны Пілеман). На жаль, наш рэспубліканскі друк гэтую дату чамусьці абышоў маўчаннем.

Эльза Зубковіч нарадзілася ў Мінску ў 1895 годзе. Бацька яе быў доктарам медыцыны, але вельмі любіў музыку. Ён хацеў, каб дачка сур'ёзна пачала займацца ёю, бо з малых гадоў у Эльзы выявіліся музычныя здольнасці. Дзяўчынка ўдала падбірала на раялі пачутыя мелодыі, прыдумвала свае і хораша іграла.

У 1914 годзе Эльза Зубковіч на выдатна скончыла Мінскую музычную школу і рыхтавалася да паступлення ў кансерваторыю, але першая сусветная вайна перашкодзіла гэтаму. Праўда, бацькі Мінск не пакідалі, і Эльза ўладкавалася працаваць у ваенны шпіталь, дзе бацька яе быў галоўным урачом. Тут яна выпадкова пазнаёмілася з выдатным педагогам і піяністам, прафесарам Варшаўскай кансерваторыі Георгіем Жураўлёвым, які праходзіў у Мінску ваенную службу. З яго дапамогай дзяўчына прайшла поўную праграму кансерваторыі.

У 1920 годзе, у час польскай акупацыі Мінска, Эльза Пілеман часта выступала на розных канцэртах, працуючы акампаніятарам польскім салістам. Тут яна пазнаёмілася з доктарам Урштэйнам. Менавіта ён і параіў дзяўчыне паехаць у Берлін да вядучага прафесара-тэарэтыка Берлінскай кансерваторыі, кампазітара Пауля Юона. Што было і зроблена.

Пад кіраўніцтва прафесара П. Юона маладая піяністка вывучала музычна-тэарэтычныя дысцыпліны і тэорыю кампазіцыі. Вучылася яна выдатна, і прафесар П. Юон прыняў яе ў свой кампазітарскі клас Берлінскай кансерваторыі з прызначэннем стыпендыі.

У маі 1922 года Эльза Зубковіч экстэрнам здае экзамены і атрымлівае дыплом піяністкі-педагога. Пасля экзаменаў адразу вяртаецца ў Мінск. Памірае яе бацька, а маці знаходзіцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Таму Эльза адразу ўладкоўваецца на працу ў музычную школу, пасля ў тэхнікум і кансерваторыю. Тут, у родным Мінску, яна выходзіць замуж за сына святара, у яе нараджаюцца дзве дачкі. Адна з іх — Ліза Маркоўская пазней стане вядомай у беларускіх колах ЗША спявачкай, якая будзе выступаць нават на Сусветнай выставе ў Нью-Йорку з беларускімі песнямі.

Перыяд 30-х гадоў — час творчай дзейнасці Эльзы Зубковіч як кампазітара і педагога. Яна ўзначальвала кафедру агульнага фартэпіяна ў кансерваторыі, пісала рамансы і апрацоўвала беларускія народныя песні. Пад яе кіраўніцтвам кафедра ператварылася ў сапраўдную навукова-даследчую ўстанову. Кампазітар шчыра сябруе з М. Равенскім, В. Залатаровым, М. Аладавым, Я. Цікоцкім і іншымі музычнымі дзеячамі Беларусі. З добрай рукі кампазітара В. Залатарова, напрыклад, у выдавецтва была здадзена кніга Э. Зубковіч, куды ўвайшлі беларускія народныя песні ў яе апрацоўцы і рамансы на словы беларускіх паэтаў. На жаль, яна не пабачыла свет, бо пачалася вайна. Дый многія аўтары спроў былі ўжо рэпрэсіраваны.

У 1934 годзе наша зямлячка напісала вялікую працу па творчасці Брамса. За яе Эльза Зубковіч атрымала званне дацэнта. Па творчасці Брамса яна павінна была абараніць у Маскве кандыдацкую дысертацыю, але зноў яе перашкодзіла вайна.

У 1944 годзе Э. Зубковіч разам з сям'ёй выехала ў Германію, а пасля ў ЗША. Але і там да самай смерці яна не пакідала сваёй музычнай і педагагічнай дзейнасці. Яна рыхтавала маладых піяністаў, выступала ў канцэртах, чытала лекцыі пра славутых кампазітараў свету, пісала рэцэнзіі на канцэрты, рэдагавала кнігі.

Плённым было на эміграцыі сяброўства Эльзы Зубковіч з рускай паэткай Ірынай Сабуравай. Вынікам іх творчых узаемаадносін стаў зборнік рамансаў "Осенние падают листья", які выйшаў з друку ў Нью-Йорку ў 1972 годзе.

Але больш за ўсё наша зямлячка любіла сваю родную беларускую паэзію. У тым жа 1972 годзе Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку выдаў цудоўны зборнік дванаццаці песень на сярэдні голас з фартэпіяна Эльзы Зубковіч "Край мой васільковы". Кампазітар Алесь Карповіч у прадмове да яго адзначае, што "шчырая, беспасярэдняя музыка песняў Э. Зубковіч прасякнутая пачуцьцямі, што пры тварэньні хвалявалі кампазітара. Таму ня можа яна пакінуць абыякавым і слухача. Асноўны настрой песьняў сузіральна-лірычны. Ды кампазітар умее знайсьці мноства адценьняў гэтае лірыкі. Акварэльнымі тонкімі штрыхамі ён зарысоўвае засмучоную задумленнасьць польнае дарогі ("Дарога" Я. Коласа), сьветлую журбу веснавога вечару ("Вясновы вечар" Н. Арсеньневай), радасную ўзьнятасьць пачуцьцяў, выкліканую харавством прыроды роднага краю ("Ой, ты край мой залаты" і "Я душу нявыгойна параніў" М. Кавыля), трапяткосьць парываньня ("Ветру" А. Гаруна), усхваляваную пятуценнасьць ("Мроя" й "Знае сэрца" Н. Арсеньневай), закалыхвальны супакой ("Калыханка" Н. Арсеньневай)".

У нас у Беларусі не так і шмат было і ёсць жанчын-кампазітараў. А тым больш такіх, якія валодаюць патрэбнымі кампазітару якасцямі: талентам, ведамі і шчырымі адносінамі да сяброў і сваёй Бацькаўшчыны. Усе гэтыя якасці ў свой час мела беларускі кампазітар і педагог Эльза Зубковіч.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

*Да 200-х УГОДКАЎ ТАМАША ЗАНА*

# ПАПЯРЭДНІК КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

Імя Тамаша Зана, наўрымслівага завадатара беларускай моладзі, непахіснага змагара за вызваленне Бацькаўшчыны ад царскай тыраніі, здольнага паэта, сёння амаль забылася. А ў свой час, у першай палове XIX стагоддзя, яно было на слыху ў кожнага адукаванага беларуса, асабліва ў моладзі. Яму прысвячалі свае вершы Ян Чачот, Ануфры Петрашкевіч, Антоні Адынец, Міхал Рукевіч і інш. Яго прыВабны вобраз увекавечыў у сваіх бессмяротных "Дзядах" вялікі Адам Міцкевіч.

Нарадзіўся Тамаш Зан 21 снежня 1796 года ў вёсцы Мясата. У гэтай і іншых вёсках і фальварках Маладзечаншчыны прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Тамаша Зана. Вучыўся ён у Мінскай гімназіі, у Маладзечанскім вучылішчы. З 1815 года ён — студэнт Віленскага універсітэта. Разам з Адамам Міцкевічам і Юзафам Яжоўскім Тамаш Зан арганізаваў тут антыцарскае Таварыства філаматаў (сяброў навук), якое набыло потым гучную славу. Паводле яго ўзору Тамаш Зан стварыў другую, больш масавую арганізацыю моладзі — Таварыства прамяністых, якое потым пераўтварылася ў Таварыства філарэтаў. У 1823 годзе віленскія згуртаванні моладзі былі выкрыты ўладамі. Пачаліся масавыя арышты філаматаў і філарэтаў. Самы галоўны ўдар свядома ўзяў на сябе якраз ён, кіраўнік філарэтаў.

**Я вамі кіраваў, каб збыць нявольі путы,**
**І абавязак мой — за вас прыняць**
**пакуты.**

Гэта словы Тамаша, героя Міцкевічавых "Дзядоў". І ён сапраўды пайшоў на гэтыя пакуты. На яго долю выпалі якраз самыя суровыя выпрабаванні. Ён быў асуджаны на высылку на Урал з папярэднім зняволеннем там у крэпасці. Але "найпрамяністы", як называлі яго сябры, не падаў духам. Наадварот, ён знаходзіў яшчэ сілы падбадзёрыць, падтрымаць духоўна сваіх сяброў, якіх таксама высылалі ў глыбіню Расіі з роднай зямлі. Захаваўся яго ліст да сяброў — філаматаў і філарэтаў, напісаны перад адпраўкай на далёкі Урал. У радках гэтага ліста — увесь Тамаш Зан:

"З самай шчырай душэўнай радасцю бласлаўляю я тыя дні, калі ўсіх нас звязала нябесным вузлом, запаліла святым агнём, асвяціла боскім духам вялікая наша дружба. У ёй, у гэтай дружбе, выхавалі мы такі характар, які ў любых, нават самых кепскіх умовых, паможа нам быць задаволенымі і шчаслівымі. Мы ўсе імкнёмся служыць сваёй зямлі, але калі ў нас не будзе магчымасці прыносіць ёй карысць, мы ўсё роўна не перастанем дабівацца гэтага праз усё сваё жыццё. Гэтая дружба, якая заўсёды падахвочвала нас да ўласнага ўдасканалення, якая рабіла і робіць дасюль усіх нас па-сапраўднаму шчаслівымі, будзе і павінна і далей натхняць нас на высакародныя дзеі, мацаваць нашы сілы, памагаць нам здзяйсняць свае задумы. Такі павінен быць настрой душ і сэрцаў усіх нас, звязаных шчырай любоўю сяброў, якія сёння ў самоце, якіх адарвалі ад вольнага жыцця. Ніякі час не згасіць нашы высокія пачуцці, нашы шчырыя думы, няма такіх прастораў, якія б змаглі раздзяліць нас адзін ад аднаго, няма такой буры, якая раскідала б нашу дружбу. Наадварот, нашы светлыя сяброўскія пачуцці яшчэ болей будуць удасканальвацца з часам, мацнець у разлуцы і ў змаганні з нягодамі. Нават калі б нас не толькі раздзялілі паміж сабой, але і расстралялі, і тады пара крыві нашай яшчэ болей сагравала б, з'ядноўвала б нас, прыдавала б сілы тым, хто застанецца жывы. Нават тады, калі б нам давялося прабыць у турме ўсё жыццё, мы ўсё роўна здолелі б быць карыснымі і шчаслівымі. Такія вось бласлаўлёныя і выдатныя вынікі нашай дружбы і любові, якой напоўнены сэрцы кожнага з нас".

Адбыўшы турэмнае зняволенне ў арэнбургскай крэпасці, Тамаш Зан і на Урале застаўся самім сабой. Пазнаёміўшыся з паэтам Пятром Кудрашовым, кіраўніком арганізацыі рускіх рэвалюцыянераў у Арэнбургу, ён прыняў самы актыўны ўдзел у яе дзейнасці, разам з рускімі сябрамі арганізоўваў уцёкі ўральскіх ссыльных за мяжу Расійскай імперыі. Праўда, гэтыя намеры не ўдалося здзейсніць. Толькі недзе праз гадоў дваццаць змог Тамаш Зан вярнуцца на радзіму: яго адпусцілі за вялікія заслугі ў пошуках карысных выкапняў, у тым ліку пакладаў золата і медзі.

Тамаш Зан для многіх пакаленняў беларускіх рэвалюцыянераў быў сімвалам мужнасці і непахіснасці ў змаганні з царскім самадзяржаўем. Цікава, што напярэдадні паўстання 1862—1863 гадоў Кастуся Каліноўскага, які гуртаваў вакол сябе моладзь Беларусі і Літвы для змагання за волю, называлі "другім Тамашом Занам" (Генадзь Кісялёў, "Радаводнае дрэва". Мн., 1994, ст. 25).

Але не толькі за актыўную грамадскую дзейнасць варты шырокага ўшанавання сёння Тамаш Зан. Немалая яго заслуга і перад новай беларускай літаратурай. Так, ён вядомы як польскамоўны паэт Беларусі, бо ў той час літаратурнай мовай у нас была польская. Заслуга Тамаша Зана перад нашай літаратурай у тым, што ён адзін з першых (разам з Янам Чачотам) звярнуўся да крыніц беларускага фальклору, паказаў, якія духоўныя багацці тояцца ў шматвяковай культуры роднага народа. Зварот да фальклору быў першым крокам літаратары Беларусі першай паловы XIX стагоддзя да ўласна беларускай літаратуры. Сюжэты і вобразы вуснапаэтычнай творчасці беларусаў асабліва шырока выкарыстаў Тамаш Зан у такіх сваіх творах, як камедыя "Грэцкія піражкі", паэма "Табакерка", балады "Цыганка", "Свіцязь-возера", у вершах і песнях.

Ніжэй прапануюцца асобныя з вершаў Тамаша Зана ў маім перакладзе.

**Кастусь ЦВІРКА.**

**Тамаш ЗАН**

### ПЕСНЯ З ТУРМЫ Ў ВІЛЬНІ

**Каб арліныя мне крылы,**
**Тут жа б я — хай згуба —**
**Паляцеў праз небасхілы**
**Да цябе, да любай.**

**Сэрца ў жалю, ў смутку вочы.**
**Без цябе, дзяўчына,**
**Дні мае — нібыта ночы,**
**Нібы год — хвіліна.**

**Покуль жыць мне бог дазволіць,**
**Буду,закаханы,**
**У няволі, у нядолі**
**Я табе адданы.**

**Нас разлучаць назаўсёды,**
**З іншым шлюб твой будзе,**
**Ды цябе праз дзён чароды**
**Сэрца не забудзе.**

**І калі ў зямное крылы**
**Я складу пад жвірам,**
**Мо ўздыхнеш хоць ля магілы:**
**"Так кахаў ён шчыра".**

*1823.*

### У АЛЬБОМ СТАФАНА ДАМБРОЎСКАГА

**На камені выбітае імя**
**Чытае ў задуме прахожы.**
**Вось так прачытае сяброў сям'я**
**І верш мой някалі, можа.**

**І ты з імі ўспомніш паўночны віхор,**
**Што нас разлучыў, гэту восень.**
**Знай: хоць я на свету краі, каля гор,**
**Ды сэрца ў Літве засталося.**

*Пры развітанні ў час выезду на выгнанне*
*13 верасня 1824.*

### ВЫГНАНЕЦ

**Каму тут свой выказаць смутак!**
**Хто зглслую верне надзею?**
**Трывожна і цяжка чаму так**
**На сэрцы! Хто хмары развее!**

**Няма ні сястры тут, ні брата.**
**Каханка найлюбая, дзе ты!**
**Ад вас, родных ніў, перакатаў,**
**Мяне аддзяляе паўсвета.**

**Бязмоўе. Для вока, для вуха**
**Усё тут няміла, ў чужыне.**
**З кім словам абмовіцца! Глуха.**
**Адзін між чужых — бы ў пустыні.**

**Ды не без сваіх і край свету.**
**Тут друга, здарэецца, бачу.**
**Ён гэткі ж выгнанец, ён гэту ж**
**Тут кару нясе, так жа плача.**

**Сляза тут у хвалі Урала**
**Спадзе, і яны будуць несці**
**Яе не да родных прычалаў,**
**А ў Мора Хвалынскае дзесьці.**

**Хто ўздых тут мой цяжкі пачуе!**
**Ледзь вырвецца ён, як завея**
**Падхопіць яго, завіруе,**
**Па стэпе татарскім развее.**

**Я тут падуладны буранам.**
**Навее ўспаміны мне хмара.**
**Былое маё — за туманам.**
**Жыццё — як далёкая хмара.**

*Арэнбург, 1825.*

ПРА НОВЫЯ ТВОРЫ АРТУРА КЛІНАВА

# «СМЕРЦЬ ПІЯНЕРА-3»: БОЛЬШ КАТАФАЛКАЎ ДОБРЫХ І РОЗНЫХ



У мінскай галерэі "Шостая лінія" адбылося адкрыццё выставы Артура Клінава. Гэта трэцяя частка славутага серыяла "Смерць піянера", якая, відаць, будзе і апошняй, таму што ў аўтара больш няма ні сіл, ні жадання яшчэ раз эксгуміраваць вобраз няшчаснага хлопчыка. Акрамя таго, аўтар сумняваецца, што ў блізкай і далёкай будучыні рэспубліку чакаюць падзеі, роўныя па значнасці рэферэндуму, што нядаўна прайшоў, якому, дарэчы, выстава і была прысвечана.

Цяжка сказаць, што рабіла большае ўражанне — самі экспанаты ці твары наведвальнікаў, якія разабраліся нарэшце, што прадстаўлена іх увазе. Справа ў тым, што фінальную частку трылогіі Артура Клінава склала выстава катафалкаў. Ашалелыя наведвальнікі хадзілі ад аб'екта да аб'екта, паступова адаптуючыся і весялеючы, а бліжэй да заканчэння экспазіцыі ўсе з зайздроснай аднастайнасцю пачыналі падбіраць экземпляр асабіста для сябе. Дарэчы, выбар, сапраўды, быў нядрэнны. Аматар мог нагледзець, напрыклад, "Эратычны катафалк". Згодна з тлумачэннямі аўтара, "мноства фалічных сімвалаў, што прысутнічаюць у даным творы, сімвалізуюць перамогу жыцця над смерцю, настройваючы гледача на аптымістычны лад".

Выстава і на самай справе ў асобныя моманты папахала сваёй жыццясцвярджальнай сілай, ва ўсякім выпадку, даўно не даводзілася бачыць разам столькі вясёлых твараў.

На маё пытанне, як расцэньваць прадстаўленыя прадметы, Клінаў прапанаваў кваліфікаваць экспанаты як рытуальную мэблю і дадаў, што гэтая выстава унікальная, таму што тэмай катафалкаў у мастацтве да яго сур'ёзна ніхто не займаўся.

— Які катафалк з прадстаўленых на выставе можна назваць вашым любімым?

— Вядома ж, "Імперыял". І справа не толькі ў памерах, хаця чатыры метры даўжынёй і тры шырынёй гавораць пра многае. Тым не менш, я разглядаю яго, як вельмі магутны, грандыёзны вобраз... Паверце, гэты катафалк — мой гонар. *Вядома ж, асноўны мой занятак — гэта жывапіс,* — сказаў Клінаў, — займаюся я ім даўно, удзельнічаў у многіх выставах. Але сёння карціна стала малаактуальнай формай мастацтва, і даводзіцца шукаць іншыя спосабы самавыяўлення.

— У чым, на ваш погляд, прычыны падзення цікавасці да жывапісу?

— Ведаеце, я год назад пачаў кнігу аб гэтым пісаць. У будучай кнізе нават ёсць назва — "Разбурэнне карціны". Я хацеў бы разабрацца, чаму карціна перастала быць актуальнай. Асноўны адказ: карціна страціла тыя функцыі, якія яна выконвала ў грамадстве сто, дзвесце, трыста гадоў назад. Партрэт, пейзаж, нацюрморт былі своеасаблівымі носьбітамі інфармацыі, а сёння з'явіліся іншыя магчымасці для выканання гэтых задач. Спад цікавасці да жывапісу адбываецца не толькі ў нас, гэта сусветная тэндэнцыя, карціны купляюцца дрэнна і ў Германіі, і ў Польшчы, а пра Беларусь і гаварыць няма чаго: тут калі б і хацеў хто купіць карціну, не зможа гэтага зрабіць. Калі трэба выбіраць паміж хлебам і жывапісам, большасць выбірае ўсё-такі хлеб. Але калі б у мяне была такая магчымасць, я б займаўся толькі жывапісам і больш нічым. Я вельмі люблю знаходзіць дзіўныя вобразы, небанальныя рашэнні. Мне вельмі падабаецца пісаць горад, прыдумваць свае вуліцы, незвычайных персанажаў. Але сёння, каб мастак мог жыць сваім рамяством, ён павінен мець сваю марку, таму што, па вялікаму рахунку, цяпер набываецца не тое, што адлюстравана, а хто гэта намаляваў. А каб зрабіць гэтую самую марку, ёсць два спосабы — ці вялікія грашовыя ўкладанні ў мастака, калі іх няма, трэба шукаць іншыя шляхі, нечаканыя хады накшталт гэтай самай выставы. Вось я і займаюся "раскруткай" самога сябе...

Аднак вернемся да выставы. Уражвала ўяўленне і разнастайнасць матэрыялаў, выкарыстаных пры стварэнні экспанатаў. У таленавітых руках майстра элементамі афармлення сталі паветраныя шарыкі, самавары, пустыя бутэлькі, чэрствыя піражкі і многа нежывой рыбы. Такая прастата, паводле слоў спадара Клінава, поўнасцю адпавядае патрабаванням нашага нялёгкага часу, калі далёка не кожнаму даступны катафалк з парчы і аксаміту. Пацвярджэннем гэтых слоў служыць катафалк "Крыжачок", прасякнуты нацыянальным каларытам і выраблены з традыцыйных беларускіх матэрыялаў — ліпы, фанеры, а таксама амерыканскай саломы, прывезенай з вёскі Амерыка Магілёўскай вобласці. На думку аўтара, вытанчанасць форм, прыгажосць і даступнасць матэрыялаў у спалучэнні з экалагічнай чысцінёй робяць гэтую мадэль найбольш перспектыўнай у данай калекцыі. Не забыты і журналісты. Катафалк "Кубак чаю а палове шостай", па задуме Клінава, прысвячаецца прэсе і выкананы з каштоўных парод дрэва і асобных нумароў папулярных газет.

Увогуле, адкрыццё выставы атрымалася: народ весяліўся і частаваўся ў выдатным буфеце арыгінальнай мадэлі, за якой, па прызнанню публікі, вялікая будучыня, а спадар Клінаў шчодра раздаваў інтэрв'ю шматлікім журналістам. Вашаму ж карэспандэнту ўдалося вырваць у яго прызнанне, што ўсё паказанае — гэта ўвасобленая паток яго свядомасці.

**Веранiка ЧАРКАСАВА.**



**НА ЗДЫМКАХ:** аўтар выставы Артур КЛІНАЎ; адзін з экспанатаў выставы.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

*НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ*

# У ПАМЯЦЬ ПРА МІНУЛАЕ

Рэспубліканскае аб'яднанне "Белпошта" падрыхтавала новую серыю дзяржаўных паштовых знакаў. Упершыню яны прысвечаны старажытнаму беларускаму іканапісу. Скора Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь увядзе іх у абарачэнне.




Пяць мастацкіх мініяцюр у выглядзе дзяржаўных знакаў паштовай аплаты прысвечаны Нацыянальнаму мастацкаму музею, дзе і знаходзяцца адлюстраваныя на іх іконы.

Што ж уяўляюць гэтыя пяць мініяцюр?

На адной з іх — Параскева, напісанне якой адносіцца да сярэдзіны XVI стагоддзя. Параскева — па-грэчаску значыць пяты дзень тыдня, ці пятніца. Напісана праматварна, у чырвоным мафорыі. У правай руцэ трымае сяміканцовы карычневы крыж, а ў левай — белы скрутак з надпісам. Фон упрыгожаны разным расліnным арнаментам, надпіс — "Вялікамучаніца".




Другая мініяцюра — Багародзіца Адзігітрыя Смаленская, таксама адносіцца да ікон XVI стагоддзя. Намалявана ў карычнева-чырвоным мафорыі. На левай руцэ трымае дзіця, якое правай рукой благаслаўляе, а ў левай — белы скрутак.

Злева на блакітным фоне — архангел Гаўрыіл у аранжавым хітоне, а справа — архангел Міхаіл у блакітным хітоне. Німбы ўпрыгожаны расліnным арнаментам.

Яшчэ на адной мініяцюры паказаны святы Ілья, амаль ва ўвесь рост. На ім светла-вохрысты хітон, а ў правай руцэ — меч. Меч з'яўляецца атрыбутам гэтага святога. У левай руцэ ў яго скрутак. Адлюстраваны святы Ілья на пазалочаным фоне з расліnным арнаментам.

З гэтай жа серыі і мініяцюра, прысвечаная святым: Васілію Вялікаму, Рыгору Багаслову, Іаану Златавусту. Яны паказаны на пазалочаным фоне з расліnным арнаментам ва ўвесь рост. З доўгай сівой барадой — Васілій Вялікі, з невялікай шырокай карычневай барадой — Рыгор Багаслоў. У чырвоным сакое і з доўгай рыжай барадой — Іаан Златавуст.

Кожны са святых айцоў царкві левай рукой знізу падтрымлівае Евангелле.

Завяршае гэты выпуск дзяржаўных знакаў паштовай аплаты блок з адлюстраваннем Нацыянальнага мастацкага музея і фатаграфіяй іконы "Ражаство Багародзіцы". Гэтая ікона адносіцца да сярэдзіны XVII стагоддзя. Як і іншыя іконы, яна прайшла доўгі перыяд рэстаўрацыі. Дзякуючы рэстаўратарам, удалося аднавіць імя іканапісца — Пётр Ясеевіч з Галынца.

На іконе паказана Ганна, якая сядзіць пад светла-карычневым полагам, абапёршыся на падушкі, накрытая чырвонай коўдрай. Тры служанкі з дарункамі ў руках прыслужваюць ёй. Справа, ля стала, сядзіць Іаахім у сінім хітоне з посахам у руцэ.

Выхад у свет гэтых знакаў паштовай аплаты прыцягне да сябе ўвагу шматлікіх калекцыянераў. А большасць з нас проста пазнаёміцца з некаторымі з шэдэўраў, якія захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Добры падарунак ад Рэспубліканскага дзяржаўнага аб'яднання "Белпошта" да Новага года.

**Анатоль ЛІСОЎСКІ.**







Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1419. Падпісана да друку 23.12.1996 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.